# Беларус

75-ГОДЗЬДЗЕ!
Менск, 25 сакавіка 1918 г.
«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».
Рада БНР

№ 399 Сакавік 1993
Год выд. 42

BIELARUS / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50


## ЗВАРОТ
## РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

**з нагоды 75-х угодкаў абвешчаньня 25 сакавіка 1918 году незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі**

Дарагія суродзічы, сыны й дочкі Беларусі!

Тры чверці стагодзьдзя таму, 25 сакавіка 1918 году, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі Трэцяй Устаўной Граматай скінула з роднага краю ярмо дзяржаўнай залежнасьці і абвясьціла Беларусь незалежнаю й вольнаю дзяржавай. Акт 25 Сакавіка запачаткаваў новы пэрыяд у тысячагадовай гісторыі беларускага народу, пэрыяд дэмакратычнага дзяржаўнага будаўніцтва, заснаванага на ідэалах свабоды адзінкі, роўнасьці ўсіх грамадзянаў перад законам і сацыяльнай справядлівасьці. Акт 25 сакавіка быў кульмінацыйным мамэнтам у векавым змаганьні беларусаў за прыродная права быць гаспадаром свае зямлі і свайго лёсу. За гэтае права змагаліся першыя нашы князі Рагвалод і Ўсяслаў Чарадзей у дзясятым і адзінаццатым стагодзьдзях. За гэтае права маліліся ў дванаццатым стагодзьдзі сьв. Еўфрасіньня Полацкая і сьв. Кірыла Тураўскі. У імя гэтага права працаваў у шаснаццатым стагодзьдзі над перакладам Бібліі Францішак Скарына, які пакінуў нам мудры і красамоўны запавет любіць і бараніць свой край, гэтак як пчолы і птушкі любяць ды бароняць вульлі й гнёзды свае. За гэтае права быць свабодным пайшоў на вісельню правадыр паўстаньня 1863 году Кастусь Каліноўскі. За гэтае права несьлі да канца свой мучаніцкі крыж творцы Акту 25 Сакавіка.

Дарагую цану плаціў і плаціць наш народ, каб вызваліцца з-пад чужога прыгнёту, каб магчы працаваць на самога сябе, самому будаваць свой дзяржаўны лад згодна са сваім разуменьнем прынцыпаў свабоды, маральных вартасьцяў і матарыяльных інтарэсаў. За сваю больш як тысячагадовую гісторыю беларусы паказалі, што на чужое яны не пасягаюць, але сваё бароняць, калі трэба, дык і цаною жыцьця, ды што заўсёды гатовыя жыць у міры і згодзе са сваімі суседзямі.

Напакутаваўшыся празь вякі ад войнаў і ўціску, ад агрэсараў і асымілятараў, наш народ спазнаў вартасьць свабоды як для асобнага чалавека, гэтак і для нацыі ў цэлым. Гэтае гістарычнае дазнаньне толькі ўзмацняе імкненьне да незалежнасьці, дэмакратыі, раўнапраўя і справядлівасьці як атрыбутаў дзяржаўнага ладу. Дзякаваць Богу настаў час, калі гэтыя вартасьці адкрыта абмяркоўваюцца ў беларускім грамадзтве на Бацькаўшчыне ды робяцца намаганьні замацаваць іх заканадаўным спосабам, хоць праходзіць гэты працэс вельмі нялёгка і паволна. А гэта таму, што набытыя за дзесяцігодзьдзі паднявольнага існаваньня паняцьці і звычкі не адыходзяць самі сабою. Шлях Беларускага Адраджэньня выбоісты. Пракладаць сьцежкі ў лепшае заўтра перашкаджаюць інэрцыя мысьленьня, прышчэпленыя чужыя вартасьці ды неазнаёмленасьць са сваёй мінуўшчынай. «Зь ярмом даў і песьню чужынец», празорліва сказаў Янка Купала пра стан душы паднявольнага беларуса. Несвабодная душа ня можа быць аптымальна творчай. А самая трывалая форма рабства — гэта рабства, што ўспрыймаецца як нармальны стан, якое ўкарэненае ў глебе няверы ў свае ўласныя сілы, у глебе няведы савае гісторыі і свае нацыянальнае тоеснасьці. Найбольш надзейны спосаб вызваленьня ад гэткай згубнай закамплексаванасьці — пазнаньне свае мінуўшчыны, пазнаньне самых сябе, перахоўваньне памяці пра абаронцаў свабоды і тварцоў нацыянальных вартасьцяў. Да такога пазнаньня ды дзеяньня ў моц яго і заклікае ўсіх Вас Рада БНР на 75-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Працэс станаўленьня нацыянальнай дзяржаўнасьці і дэмакратыі ў Беларусі ідзе вельмі замаруджанымі тэмпамі. На шляху Беларускага Адраджэньня стаяць і матарыяльныя цяжкасьці, і перашкоды ў асобах людзей учарашняга дня. Гэтыя людзі намагаюцца вярнуць сабе страчаныя пазыцыі, кіруючыся або чужымі інтарэсамі або чыста эгаістычнымі меркаваньнямі. Ёсьць цімала й такіх функцыянераў розных рангаў, што не задумваюцца пра адказнасьць перад народам, бо яны пазбаўленыя пачуцьця патрыятызму, ато й маральнасьці наагул. Навочны доказ гэтага — аднаўленьне на Беларусі КПБ у той форме, у якой яна засталася пасьля ліквідацыі СССР. Партыя гэтая ніколі ня была беларускай. Камунізм нават па сваёй «чыстай» ідэялёгіі не адпавядае духу беларускага народу, пагатоў камунізм, які, у форме расейскага бальшавізму, стаўся быў крымінальнай арганізацыяй, што імкнулася да сусьветнага панаваньня. КПБ была неадлучнай часткай гэтай злачыннай арганізацыі. Аднаўленьне яе Вярхоўным Саветам Беларусі, які не прадстаўляе волі народу — гэта бясправны акт, супраць якога Рада БНР катэгарычна пратэстуе.

Бацькаўшчына, такім чынам, апынулася ў цяжкім стане, і сёньня, як ніколі ў нашай дасюлешняй гісторыі, усім нам трэба кансалідаваць сілы вакол ідэі вольнай дэмакратычнай Беларусі.

Дарагія Суродзічы! Мы жывём у пэрыядзе станаўленьня па цэлым сьвеце нацыянальных дзяржаваў. Дваццатае стагодзьдзе паказала, што нацыянальная сьведамасьць — гэта той дзяржаватворчы элемэнт, які задзіночвае грамадзтва ў адно арганічнае цэлае, надаючы яму жыцьцяздольнасьць і трываласьць. І калі гэткі працэс яднаньня народу базуецца на прынцыпах дэмакратыі, ён забясьпечвае максымальныя шанс на справядлівае грамадзкае існаваньне. Дэмакратызм у дзяржаватворчым працэсе мае выключна вялікую важнасьць. Нельга пераацаніць значэньня дэмакратычнага прынцыпу, бачачы, як у сучасным сьвеце палыхаюць, распаленыя шавінізмам, крывавыя міжэтнічныя канфлікты. Але беларускі нацыяналізм ніколі ня быў агрэсыўным. А каб у беларускай дзяржаве не дайшло да канфліктаў на грунце этнічнай ці рэлігійнай рознасьці, Рада БНР заклікае ўсіх Вас быць ня толькі патрыётамі свайго этнасу, а ўздымацца на вышэйшы ўзровень патрыятызму — быць патрыётамі ідэі, ідэі беларускай дэмакратычнай дзяржавы, як гаранта аднолькавых правоў усім сваім грамадзянам бяз розьніцы этнічнага паходжаньня, рэлігійнай прыналежнасьці ці сьвегаглядных пераканаьняў. Гэткую дзяржаву дэкляравала ў сваіх Устаўных Граматах у 1918 годзе Рада БНР і на гэткую дзяржаву мы заклікаем Вас працаваць у сёньняшнім адказным гістарычным часе.

Жыве Беларусь!

Жыве ідэя Беларускай Народнай Рэспублікі!

Нью-Ёрк, Сакавік 1993 г.

**РАДА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**

## ЕЛЬЦЫНСКАЯ «ДАКТРЫНА МАНРО» НАВЫВАРАТ

У 1823 годзе амэрыканскі Прэзыдэнт Джэймс Манро перасьцярог эўрапейскія дзяржавы перад умешваньнем у справы Лацінскай Амэрыкі, народы якое вызваляліся з-пад гішпанскага кантролю.

Цяпер амэрыканскія камэнтатары назвалі расейскага Прэзыдэнта Барыса Ельцына «Манро», пасьля таго як Ельцын заклікаў ААН прызнаць права Расеі спыняць этнічныя канфлікты на ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюзу, інакш кажучы, права ўмешвацца ў справы 14 незалежных дзяржаваў, былых рэспублік СССР.

Амэрыканская палітычная думка схільная да прызнаньня ельцынскае «дактрыны Манро», паколькі Прэзыдэнт Расеі стаіць перад вялікай пагрозай яму з боку камуністычна-кансэрватыўнага парлямэнту. Прэзыдэнт Ельцын увасабляе ўваччу амэрыканцаў найлепшы шанс Расеі правесьці дэмакратычныя рэформы. У Белым Доме абмяркоўваецца цяпер пытаньне канкрэтнай грашовай дапамогі Расеі. З моцнай аргумэнтацыяй на карысьць такой дапамогі выступіў былы Прэзыдэнт ЗША Рычард Ніксан, які, вярнуўшыся з падарожжа па былым Савецкім Саюзе, апублікаваў вялікі артыкул у газэце «Нью-Ёрк Таймс» (5.III.93) і наведаў Прэзыдэнта Клінтана ў Белым Доме.

Ніксанаў аргумэнт: Захад мусіць дапамагчы Прэзыдэнту Ельцыну выжыць палітычна, бо ў гэтым — найлепшая гарантыя на міжнародную стабільнасьць, а значыцца, і на вялікае зьмяншэньне ваенных выдаткаў у бюджэце Злучаных Штатаў. Пасьля магчымага палітычнага падзеньня Ельцына амэрыканцы бачаць няўхільны прыход да ўлады расейскіх нацыяналістаў-кансэрватараў зь іхным больш варожым стаўленьнем да Захаду. Газэта «Нью-Ёрк Таймс» (9.III) піша, што калі ў Расеі пасьпяхова правядуцца прапанаваныя Ельцынам рэформы, дык гэта зможа заашчадзіць Амэрыцы найменш 100 мільярдаў даляраў, якія пойдуць на ўзбраеньне, калі-б у Расеі прыйшлі да ўлады апанэнты Ельцына. Газэта прапануе Прэзыдэнту Клінтану наладзіць хуткую фінансавую дапамогу Расеі на падтрыманьне некаторых канкрэтных праграмаў (страхоўка ад беспрацоўя, перавышкаленьне ваенных, дапамога фэрмэрам і д.п.).

Для вонкавага сьвету не сакрэт аўтарытарнасьць расейскага прэзыдэнта-рэфарматара, але пераважная бальшыня камэнтатараў прызнае, што пры сучасным складаным палажэньні ў былой савецкай імпэрыі Ельцын дае найбольшыя шансы вывесьці сваю рэспубліку з хаосу, ад якога могуць пацярпець усе навакольныя рэспублікі. З мэтай дапамогі Прэзыдэнту Ельцыну і заплянаваная сустрэча зь ім Прэзыдэнта Клінтана, што мае адбыцца 3-4 красавіка ў канадзкім горадзе Ванкувэры.

Трэба спадзявацца, што Прэзыдэнт Клінтан у гутарках із сваім расейскім адпаведнікам будзе ўлічваць перасьцярогу, якую выказвае былы дзяржаўны сакратар ЗША Гэнры Кісынджэр. Кісынджэр у сваіх апошніх артыкулах перасьцерагае Захад не забывацца на расейскую гісторыю. Калі амэрыканцы, кажа ён, будуць дапамагаць толькі Расеі, выключаючы іншыя былыя савецкія рэспублікі, дык Захад можа апынуцца за колькі гадоў перад нова-адроджанай імпэрыялістычнай Расеяй.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПРЫВІТАНЬНЕ АД БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

Менск, 5 сакавіка 1993 г.

ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Семдзесят пяць гадоў таму нашая Бацькаўшчына вуснамі заснавальнікаў Беларускае Народнае Рэспублікі сьцьвердзіла свае права займаць пачэсны пасад між народамі й дзяржавамі сьвету.

Змаганьне пакаленьняў беларусаў дало плён. Рэспубліка Беларусь абвешчана незалежнаю дзяржаваю. Над Менскам лунае наш адвечны бел-чырвона-белы штандар, а дзяржаўным гербам краіны зноў стала Пагоня. У школьную клясу спакваля вяртаецца родная мова.

Але галоўнае сьвята Беларусі азмрочана трывогаю. Сілы мінуўшчыны перайшлі ў наступ. Камуністычныя ўлады давялі эканоміку да руіны, рынкавых рэформаў няма, дзяржаўную маёмасьць раскрадае намэнклятура. Заключаюцца пагадненьні, якія замацоўваюць залежнасьць нашае краіны ад усходняга суседа. Распачалася прапагандысцкая кампанія за дзяржаўнасьць на Беларусі расейскае мовы. Улады зганьбілі сябе забаронаю патрабаванага амаль паўмільёнам выбаршчыкаў рэфэрэндуму. Урэшце, незаконна адноўленая КПСС — партыя, якая нясе адказы за пакуты нашага народу, якая збройна нішчыла БНР і растаптала ідэалы 25 Сакавіка.

Дзень незалежнасьці не зацьверджаны дзяржаўным сьвятам Рэспублікі Беларусі. Як і раней, мы адзначаем гэты вялікі дзень у сэрцах, а публічныя акцыі адбываюцца толькі дзякуючы грамадзкай ініцыятыве.

Таму на шляху да спаўненьня ідэалаў 25 Сакавіка яшчэ давядзецца пераадольваць ці мала перашкодаў, а найперш — зацяты супраціў камуністычных ды антынезалежніцкіх сілаў, што пануюць на Беларусі.

Мы ведаем і цэнім зразуменьне й падтрымку нашае барацьбы усімі суродзічамі, каму дарагія ідэалы 25 Сакавіка. Вашая, дарагія суродзічы, ахвярная праца на карысьць Бацькаўшчыны далёка ад яе межаў — важкі ўклад у беларускую справу да трывалае маральнае апірышча дэмакратычнаму руху на Беларусі.

Прымеце-ж, дарагія суродзічы, ад усіх сяброў Беларускага Народнага Фронту нашыя шчырыя сьвяточныя зычэньні посьпехаў у Вашых добрых справах і спаўненьня запаветных мараў.

Жыве Беларусь!

**Зянон Пазьняк**
Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

**Вінцук Вячорка**
Сакратар Управы БНФ «Адраджэньне»

***Лявон Цімохін***

### *СЬЦЯГ ПАМЯЦІ*

Пад шэрым небам хмары і марозь,
Заільдзянелы крыж па-над магілай.
Я сёньня кветкі прашчуру прынёс,
І палажыў іх я пад крыж пахілы.

І чырвань руж лягла на белы снег,
Магіла прашчура мне стала сьцягам,
У ёй і раднасьць душ, і наш сыноўні грэх,
І гора, і любоў, і роспач, і адвага.

Застылі ў сумным мроіве палі,
Вакол бялеюцца палеткаў гоні,
А па прасторах роднае зямлі
Ізноў ляціць славутая Пагоня.

...І хоць навокал мора бед і сьлёз,
Хаўрусяць здраднікі зь нячыстай сілай,
Я сёньня кветкі прашчуру прынёс,
І стала сьцягам памяці магіла.

**Заўвага:** *Аўтар гэтага вершу — старшыня Маладзечанскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны. Перадрук з газэты «Наша слова» № 5, Менск, 3.II.1993.*

## «ДАР САКАВІКА»

Паважаныя Суродзічы!

Хоць Беларусь сёньня фармальна незалежная дзяржава, яна яшчэ ня мае ані сапраўднай незалежнасьці, ані праўдзівай дэмакратыі. У Вярхоўным Савеце рэспублікі рэй вядуць учарашнія камуністы, якія ня лічацца ні з прынцыпамі дэмакратыі, ні са сваімі законамі, як пра гэта сьветчыць заблякаваньне рэфэрэндуму аб новых выбарах у Вярхоўны Савет. Нядаўна той-жа Вярхоўны Савет адчыніў шляхі да дзейнасьці старой кампартыі, ледзь не аддаўшы ёй незаконна нажытую ёю маемасьць.

У ходзе змаганьня, якое ідзе цяпер паміж нацыянальна-адраджэнскімі сіламі і прыхільнікамі старога рэжыму на Беларусі, Рада БНР падтрымвае нацыянальна-вызвольныя і нацыянальна-адраджэнскія працэсы. Але каб дзейнасьць Рады БНР была як мага больш эфэктыўнай, патрэбныя фінансавыя сродкі. З гэтай мэтай Сакратарыят Фінансаў, як штагоду, праводзіць сёлета, на 75-я ўгодкі абвешчаньня Радай БНР незалежнасьці Беларусі, збор ахвяраў на «Дар Сакавіка», каб, дзякуючы Вашай ахвярнасьці, можна было даваць дапамогу на найбольш патрэбныя бягучыя справы, зьвязаныя са змаганьнем Беларусі за выхад да сапраўднай Свабоды і Незалежнасьці.

Далучэцеся канкрэтна да клічу «Жыве Беларусь!» Прышлеце сваю ахвяру на ніжэй пададзены адрас Скарбніка Рады БНР.

Vitaly Kazan
183 Lawn Ave.
Stamford, CT 06902

**Сакратарыят Фінансаў Рады БНР**

*Яго Высокапраэсьвяшчэнства Высокадастойнага*
**Мітрапаліта МІКАЛАЯ**
*Першага іерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы вітаюць з нагоды 25-годзьдзя яго хіратоніі ў епіскапы ды жадаюць яму добрага здароўя й спору ў ягонай плённай пастырскай і выдавецкай дзейнасьці*

**Рада БАПЦ, парафіі і вернікі БАПЦ**
*10 сакавіка 1993 г.*

## ДА ПЫТАНЬНЯ ЎДЗЕЛУ БАЗА Ў ЗЬЕЗЬДЗЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

**Ад Рэдакцыі:** *Зьмяшчаем ніжэй пагляд беларускага актыву ў Нью-Ёрку на справу скліканьня ў Менску ў ліпені 1993 году Зьезду беларусаў сьвету. Пагляд гэты быў выказаны колькі месяцаў таму, але ня страціў актуальнасьці, як пра гэта сьветчаць выказаньні дзеячоў і кіраўнікоў паасобных арганізацыяў на Беларусі і ў дыяспары.*

На паседжаньні Галоўнай Управы БАЗА 23 кастрычніка 1992 г. разглядалася пытаньне плянаванага ўладамі ў Менску сусьветнага зьезду («кангрэсу») беларусаў і стаўленьня да гэтае ініцыятывы з боку БАЗА. Пытаньне гэтае наколькі актуальнае, нагэтулькі палітычна далікатнае, і чым бліжэй да пачатку ліпеня 1993 году, тым больш яно будзе абмяркоўвацца на арганізацыйных паседжаньнях і ў прыватных гутарках. Дык як гэтую ініцыятыву Менску трэба ацэньваць?

Ацэньваць яе трэба ў сьвятле таго палітычнага змаганьня, якое адбываецца на Беларусі паміж дэмакратычнай апазыцыяй ды кансэрватыўнай бальшынёй у Вярхоўным Савеце і паза ім, а таксама ў кантэксьце шырэйшага працэсу нацыянальнага адраджэньня на Беларусі. Каб сусьветны зьезд беларусаў мог стацца ДЭМАКРАТЫЧНЫМ мерапрыемствам, трэба, каб у ягоным скліканьні і правядзеньні ўзяў удзел Беларускі Народны Фронт, а ня толькі Згуртаваньне «Бацькаўшчына» і Міністэрства замежных спраў Беларусі.

Патрабаваньне з боку БАЗА, каб БНФ браў удзел у скліканьні сусьветнага зьезду, было выказанае на супольным паседжаньні ў часе 20-е Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Удзельнікамі гэнага паседжаньня былі, між іншымі, спсп. П. Краўчанка, Г. Бураўкін, Я. Лецка, В. Голубеў, В. Трыгубовіч, А. Шукелойць, В. Русак, Я. Арцюх, Я. Запруднік. Паколькі на тым паседжаньні адразу-ж выявіліся даволі войстрыя разыходжаньні паміж, з аднаго боку, старшынём «Бацькаўшчыны» сп. Лецкам, а з другога — прадстаўнікамі БНФ сп. Голубевам і сп-няй Трыгобовіч, сябры БАЗА аднагодна выказалі пажаданьне, каб «Бацькаўшчына» і БНФ сьпярша дагаварыліся паміж сабой адносна працэдуры скліканьня зьезду, а тады падалі свою прапанову БАЗА — каб беларусам Амэрыкі было ясна, на якіх прынцыпах і зь якой мэтай зьезд склікаецца.

Ці да гэткай дамоўленасьці паміж «Бацькаўшчынай» і БНФ дойдзе, тымчасам няведама. Калі такой дамоўленасьці ня будзе, дык гэта будзе значыць, што Міністэрства замежных спраў і «Бацькаўшчына» бачаць у правядзеньні зьезду СВАЮ МЭТУ, зь якой Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню, дый усім беларусам на Захадзе, можа быць зусім непадарозе. У гэткім выпадку мы павінны будзем расцэньваць зьезд, як манэўр урадавых дзейнікаў у змаганьні з нацыянальна-дэмакратычным рухам і апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце.

Калі зьезд будзе склікацца зь менскага боку толькі спсп. Лецкам і Краўчанкам, дык афіцыйнага ўдзелу ў скліканьні і праводжаньні такога зьезду БАЗА не павінна браць, бо гэта паставіць найбольшую беларускую арганізацыю ў Амэрыцы ў саюзьнікі кансэрватыўных афіцыйных уладаў супраць Народнага Фронту, супраць нацыянальна-дэмакратычнага руху. Значыцца, БАЗА можа афіцыйна браць удзел у арганізаваньні сусьветнага зьезду беларусаў толькі пры ўмове, што ён будзе склікацца супольна зь Беларускім Народным Фронтам.

Тымчасам стаецца ўсё больш відавочным, што да такой супольнай акцыі ня дойдзе. Рэч у тым, што пад канец кастрычніка ўжо стала ясна, што зьезд адбудзецца незалежна ад таго, як да яго паставіцца БНФ ці БАЗА. Тады ўжо пра скліканьне зьезду «Бацькаўшчына» гаварыла, як пра споўнены факт. Гэтак, прыкладам, у паведамленьні ў «Зьвязьдзе» (31.X.92) пра запланаваны на 19-20 сьнежня летась у Менску «першы Сход беларусаў блізкага замежжа» было сказана, што Сход гэты «павінен стаць важным этапам яднаньня нацыі напярэдадні форуму беларусаў сьвету».

Пры ўсіх акалічнасьцях, аднак, адзін факт застаецца бясспрэчны: хтоб ні арганізаваў сусьветны зьезд беларусаў, шмат хто з эмігрантаў на яго паедзе, бо самая ідэя такога зьезду ў прынцыпе вельмі добрая і заслугоўвае на ўхвалу, як пра гэта было сказана ў рэзалюцыі 20-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Дык што павінна рабіць БАЗА, калі зьезд будзе склікацца толькі «Бацькаўшчынай» бяз удзелу Беларускага Народнага Фронту?

Думаецца, што БАЗА павінна паставіцца да ініцыятывы «Бацькаўшчыны» падобна, як «Бацькаўшчына», «Радзіма» і Міністэрства замежных спраў Беларусі паставіліся да дзьвюх апошніх Сустрэчаў Беларусаў Паўночнай Амэрыкі — прыслалі сваіх гасьцей і назіральнікаў. Гасьцямі-назіральнікамі могуць быць і сябры БАЗА на сусьветным зьезьдзе беларусаў у Менску. І тым ня менш, ім трэба будзе ўвесь час памятаць пра адзін важны мамэнт, што адрознівае абставіны, у якіх адбываюцца Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, ад абставінаў, у якіх будзе праходзіць першы Зьезд беларусаў сьвету.

У Амэрыцы й Канадзе ніхто не зацiскае беларускага нацыянальнага духу, тымчасам як у Менску гэта робіцца на кожным кроку і ў шмат якіх выпадках зь ведама а то й з удзелам некаторых афіцыйных інстанцыяў. Вось чаму кожнаму БАЗА-ўцу, які захоча паехаць на зьезд у Менск, трэба будзе быць вельмі абачлівым, каб ня стацца ўдзельнікам мерапрыёмства, якое можа быць скіраванае на заціcканьне нацыянальна-дэмакратычнае апазыцыі ў Беларусі, упаасобку, якое можа быць выкарыстанае менскімі кансэрватыўнымі ўладамі, як дэманстрацыя ўяўнае салідарнасьці беларускай эміграцыі з урадам Рэспублікі на шкоду Беларускаму Народнаму Фронту і беларускаму нацыянальнаму адраджэньню.

# ЗАЯВА

## УДЗЕЛЬНІКАЎ ПЕРШАГА СХОДУ БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

Мы, беларусы з Бацькаўшчыны, і тыя, хто мае крэўную сувязь з гэтай зямлёю, але па розных прычынах пакінулі яе ў час існаваньня Расійскай імпэрыі і СССР, ці засталіся за межамі Беларусі ў выніку адвольнага падзелу межаў, сабраліся на гэты Сход, каб зрабіць першы крок да аб'яднаньня беларускай нацыі.

Мільёны беларусаў жывуць сёньня ў сьвеце, аддаючы сваю працу, свой талент і майстэрства іншым народам і дзяржавам, якія сталі для іх другою радзімаю. Але найпершым іх клопатам зьяўляецца трывога за лёс Бацькаўшчыны. Якім ён будзе? Ці паўстане з каленяў і стане сапраўды незалежнай Рэспубліка Беларусь? Толькі самастойная Беларуская Дзяржава можа быць сапраўдным бацькоўскім домам для ўсіх тых, чые продкі зь веку ў век шчыравалі на гэтай зямлі, ствараючы духоўную і матэрыяльную культуру беларускай нацыі. Зыходзячы з гэтага, мы лічым, што кожны, хто паходзіць зь Беларусі, незалежна ад таго, дзе ён жыве цяпер, мае натуральнае права прыняць удзел ў будаўніцтве новай Беларусі, у адраджэньні беларускай дзяржаўнасьці, нацыянальнай культуры, мовы, традыцый, усяго таго, што стварае воблік цывілізаванай дэмакратычнай краіны.

Адчуваючы вялікую адказнасьць за будучыню нашай Радзімы, мы лічым неабходным выкласьці і давесьці да ведама грамадзкасьці Беларусі, парляманту і ўраду агульныя думкі ўдзельнікаў Сходу па асноўных аспэктах палітычнай і эканамічнай сытуацыі ў рэспубліцы:

1. Галоўнае, што трывожыць нас сёньня, гэта тое, што ўрадавымі коламі яшчэ не зацьверджана канцэпцыя нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь з шырокім абмеркаваньнем яе сярод грамадзкасьці. У гэтай канцэпцыі павінна быць вызначана, якая дзяржава будуецца, у якім накірунку будзем рухацца, якія прынцыпы дзяржаўнай арганізацыі возьмем за ўзор для сябе, павінна быць паказана геапалітычная стратэгія, месца Беларусі ў аднаўленай Эўропе. У палітыцы рэспублікі прадаўжае дамінаваць арыентацыя на захаваньне несамастойнай Беларусі, залежнасьць яе ад былога цэнтру. На нашу думку, грунтоўная навуковая канцэпцыя дзяржаўнага будаўніцтва з выкарыстаньнем сусьветнага вопыту і нацыянальных здабыткаў павінна быць распрацавана і зацьверджана неадкладна. Беларусы замежжа маглі-б таксама прыняць удзел у гэтай адказнай працы. Яна павінна быць здабыткам калектыўнай думкі ўсіх талентаў, якія сёньня мае беларуская нацыя.

2. Мы цьвёрда перакананыя, што новая беларуская рэспубліка павінна будавацца на прынцыпах дэмакратыі, паводле якіх правы чалавека зьяўляюцца прыярытэтнымі над інтарэсамі дзяржавы. Па гэтай прычыне мы выказваем нязгоду з рашэньнем Вярхоўнага Савету Беларусі адмовіць у правядзеньні рэспубліканскага рэфэрэндуму аб даверы парляманту, за які выказаліся амаль паўмільёна грамадзян. Удзельнікі Сходу падтрымліваюць прапанову аб пераглядзе гэтага рашэньня, выкладзеную ў заяве больш сямідзесяці прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, апублікаванай «Народнай газэтаю» 3.12.92.

3. Адраджэньне беларускай дзяржаўнасьці немагчыма без нацыянальнага адраджэньня народу, яго мовы і культуры. Але працэс гэты ў рэспубліцы ідзе марудна. Ён ня толькі не стымулюецца належным чынам з боку дзяржавы, а наадварот, апошнім часам сталі відавочнымі тэндэнцыі да яго абмежаваньня. Дайшло да таго, што на афіцыйным узроўні пачалі гучаць прапановы аб правядзеньні рэфэрэндуму па мове, патрабаваньні ўзаконіць двухмоўе і г.д. Тут, у сталіцы рэспублікі, не гаворачы ўжо пра іншыя гарады, па-ранейшаму валадарыць руская мова. Ня ўсюды зменены ранейшыя камуністычна-партыйныя шыльды на будынках, назвы вуліц, надпісы ў грамадзкіх месцах. Тым, хто прыехаў на Радзіму здалёку, хацелася-б чуць тут беларускую мову, бачыць нацыянальны духоўны асяродак. А калі такая сытуацыя на Бацькаўшчыне, то ці можам мы, замежныя беларусы, разьлічваць на яе дапамогу ў арганізацыі нацыянальнага жыцьця для нас у іншых дзяржавах?

4. Улічваючы тое, што падмуркам любой дзяржавы, гарантам яе самастойнасьці, унутранага спакою і дабрабыту грамадзян зьяўляецца надзейная эканамічная база, удзельнікі Сходу выказваюць занепакоенасьць у сувязі з блакіраваньнем эканамічных рэформ у рэспубліцы. Эканамічна нестабільная, аслабленая дзяржава ня можа падтрымаць сваю дыяспару ў сьвеце, быць для яе надзейнаю апораю і шчодраю маці. У сваю чаргу, у час станаўленьня эканомікі незалежнай Беларусі, замежныя беларусы прапануюць сваю дапамогу ў наладжваньні эканамічных стасункаў зь іншымі дзяржавамі, удзел у вырашэньні эканамічных праблем у самой Беларусі.

5. Рэальную небясьпеку для адзінства беларускага народу стварае канфэсійная сытуацыя ў Беларусі. Заклікаем парлямэнт і ўрад рэспублікі надаваць увагу ўсім канфэсіям, не даючы перавагі ніводнай зь іх. Нашым нацыянальным інтарэсам адпавядае палітыка адраджэньня і захаваньня ўсіх рэлігійных канфэсій, якія гістарычна існавалі ў Беларусі і спрыяюць сёньня нацыянальна-духоўнаму адраджэньню Бацькаўшчыны. Царква не павінна быць сродкам дасягненьня палітычных мэтаў. Тым больш, не павінна быць праваднікам інтарэсаў іншых дзяржаў на нашай Радзіме.

Удзельнікі Сходу выказваюць надзею на паразуменьне зь дзяржаўнымі ўладамі, усімі палітычнымі, грамадзкімі партыямі і рухамі ў рэспубліцы, зацікаўленымі ў адраджэньні беларускай дзяржаўнасьці на прынцыпах незалежнасьці, дэмакратыі, абароны правоў чалавека. Мы імкнемся да сумеснай працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны і верым, што Беларусь стане жаданай зямлёю для ўсіх беларусаў у сьвеце.

Менск, 20 сьнежня 1992 году.

## «УНІВЭРСАЛЬНАЯ ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА»

**Другое выданьне ў апрацаваньні Яна Патроўскага**

Летась асобнай брашурай (16 ст.) выйшла ў выдавецтве Беларускага Дабрадзейнага Адукацыйнага Фонду другое выданьне аднаго з найбольшых дакумэнтаў нашай эпохі — Унівэрсальная Дэклярацыя Правоў Чалавека. Сп. Ян Пятроўскі, які жыве ў штаце Флярыда ў ЗША і ўзначальвае фонд, напісаў уступ да тэксту дэклярацыі, у якім коратка знаёміць чытача са старажытнымі праўвымі дакумэнтамі: кодэксам Гамурабі, дзейнасьцю грэцкага заканадаўцы Салёна, рымскім правам, ангельскай Вялікай Хартыяй ды Статутам Вялікага Княства Літоўскага.

# «НАША СУВЭРЭННАСЬЦЬ ПАД ВЯЛІКАЙ ПАГРОЗАЙ»

**Інтэрв'ю з Васілём Быкавам карэспандэнткі радыё «Свабода» Галіны Айзэнштат на пачатку лютага 1993 г.**



*Васіль Быкаў. Фота Сяргея Грыцая*

**Галіна Айзэнштат:** Падзеі апошніх месяцаў і тыдняў на Беларусі, адхіленьне Вярхоўным Саветам рэфэрэндуму, няпрыняцьце закону аб праве ўласнасьці на зямлю, аб прыватызацыйных чэках, скасаваньне пастановы аб прыпыненьні дзейнасьці КПБ, зварот шэрагу пісьменьнікаў уступіць у бондараўскі саюз пісьменьнікаў міжволі прымушаюць задацца пытаньнем: «А ці здолее Беларусь пры такім узроўні самасьвядомасьці грамадзтва замацавацца на шляху да незалежнасьці?

**Васіль Быкаў:** Цяжка ў гэтым сэнсе штo-небудзь прадказваць, тым больш што тут патрэбна, відаць, аналітычная праца. Я не спэцыяліст у гэтай галіне. Але магу толькі сказаць, што калі справы на Беларусі пойдуць так, як яны ідуць дагэтуль, дык наша сувэрэннасьць пад вялікай пагрозай, бо эканамічная крыза — якая ахапіла ня толькі Беларусь, канешне, але і ўвесь былы Саюз, усе дзяржавы гэтага Саюзу — робіць усё ў тым напрамку, каб пазбавіць Беларусь гэтай сувэрэннасьці. І я думаю, што ў бліжэйшы час наша незалежнасьць будзе залежаць ад нашай эканомікі. А гэтая эканоміка знаходзіцца цяпер у такім стане, калі прасьвету якога-небудзь наперадзе проста ня відаць і становішча ўсё пагаршаецца — ня толькі з кожным годам, а з кожным месяцам, нават з кожным днём.

**Г. А.:** Беларусь заўсёды лічылася адным з самых кансэрватыўных рэгіёнаў былога Саюзу. Аднак кіраўніцтва рэспублікі падносіць гэтую акалічнасьць, як станоўчую рэч, як абачлівасьць, якая ўсьцерагае ад памылак. Але-ж павінна быць мяжа, за якую нельга пераходзіць, бо там ужо пачынаецца не абачлівасьць, але элемэнтарная няздольнасьць быць самастойнымі, паважаць сябе.

**В. Б.:** Ну, вядома, абачлівасьць — гэта добрая рыса, калі яна грунтуецца на нейкім разьліку. Але справа ў тым, што гэтая сапраўды добрая рыса пераходзіць у нешта адваротнае, а іменна што датычыць Беларусі, дык гэта перш за ўсё страта самастойнай нацыянальнай палітыкі. Гэта мы назіраем у розных рэчах, самых звычайных, паўсядзённых, а таксама ў стратэгічных. Я хоць-бы хацеў прывесьці адзін момант нашай палітыкі ў дачыненьні да войска, каторага ў Беларусі сканцэнтравалася вялізная колькасьць. Наша кіраўніцтва разьлічвала, што гэта паслужыць усталяваньню добрых адносін з Расіяй, і Расія такім чынам яму аддзячыць, а іменна, кампэнсуе ў галіне энэрганосьбітаў. Ну, але вось аказалася, што войска мы займелі ў вялікай колькасьці, якое трэба карміць, а нафты па-ранейшаму няма, і нават больш таго — робіцца ўсё менш, і яна ўсё даражэе, незалежна ад нашых адносін з Расіяй. Тут, канешне, дзеюць законы рынку і гэтая абачлівасьць, або гэты хвасьцізм, уласьцівы беларускаму кіраўніцтву, ня прыносіць Беларусі ніякай карысьці.

**Г. А.:** Засмучае яшчэ і тое, што многія парадстаўнікі творчае інтэлігенцыі, якая заўсёды напышліва называла сябе «сумленьнем нацыі», ня толькі не крытыкуюць якія-небудзь крокі ўлады, а наадварот — імкнуцца як мага лепш дагадзіць ёй, мацней пасябраваць зь ёю, каб нешта ўхапіць пэрсанальна для сябе. А потым скардзяцца, што народ іх ня чытае і ня ведае. Але-ж народ усё бачыць і ведае ім сапраўдную цану.

**В. Б.:** Народ, канешне, ведае сапраўдную цану, але сапраўдную цану нашай творчай інтэлігенцыі ведае і Камуністычная партыя, якая яе выхоўвала на працягу 70-годзьдзя. І вось гэтая камуністычная ідэялёгія па-ранейшаму знаходзіцца ў арсэнале большасьці нашых творчых саюзаў. У гэтым вялікае няшчасьце нацыі, бо ў цяжкі час, калі сапраўды нешта зьявілася на гарызонце, зьявіўся нейкі гістарычны шанс. Іменна цяпер творчая інтэлігенцыя выходзіць у лепшым выпадку зь ігры, а ў горшым выпадку яна,

*(Працяг на 5-й ст.)*

## БЕЛАРУСКАЯ АРМІЯ ПРЫСЯГНУЛА

31 сьнежня 1992 г. грамадзяне Беларусі, што служаць у збройных сілах Рэспублікі Беларусь, склалі прысягу на вернасьць беларускаму народу. Першым склаў прысягу старшыня Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі генэрал-лейтэнант Эдуард Шыркоўскі. Прысягнуў таксама прэм'ер Вячаслаў Кебіч як палкоўнік запасу і кіраўнік ураду, якому падпарадкаваная армія. Газэта «Советская Белоруссия» (5.1.93) напісала:

«Пад бел-чырвона-белым сьцягам яны і іхныя калегі (генэралы, палкоўнікі і г.д. — рэд. «Беларуса») вымаўляюць вайсковую прысягу, ставяць свой подпіс і чаканяць нязьменнае: 'Служу Рэспубліцы Беларусь!'».

Жаўнеры-неграмадзяне прысягі не складалі, ім даецца магчымасьць служыць па кантракце, і набыць грамадзянства ім будзе лёгка. Каб ня было падозраньня аб дыскрымінацыі гэткіх вайскоўцаў, міністар абароны РБ Павал Казлоўскі сказаў: «Мы ствараем не нацыянальную армію, а збройныя сілы Рэспублікі Беларусь. Галоўны крытэрый павышэньня афіцэраў — іхняя прафэсійныя асабістыя якасьці, а не нацыянальнасьць».

Так, небеларусаў у войску РБ не дыскрымінуюць. Барджджэй наадватот — дыскрымінуюць беларусаў за беларускасьць. Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў ці раз жалілася на перасьлед ягоных сяброў толькі за тое, што яны дамагаюцца пашаны беларускае мовы і азнаямленьня з гісторыяй і культурай Беларусі, без чаго, як ведама, ня можа быць эфэктыўнага абаронцы Радзімы.

# У МЕНСК ЗЬ ЛЮБОЎЮ

**У дарогу з грузам на два мільёны даляраў**

Пасьля адкладаў і зьмены плянаў гуманітарная дапамога ахвярам Чарнобыля ў Беларусі вырушыла ў дарогу. Чатыры кантэйнэры, па сорак футаў (12 мэтраў) даўжыні кожны, былі напоўненыя мэдыкамэнтамі, мэдычным абсталяваньнем, шпітальнымі прыладамі, багата-бялковымі харчамі ды нават скрыначкі для прапановаў?

Калі мы ўзьняліся на вышыню 10.000 мэтраў, нам паведамілі, што час лёту да Менску — тры гадзіны і 50 хвілін. Я сабе падумаў, што цяпер якраз добры час падагнаць з чытаньнем і ўзяўся за часапіц PC Computing, разглядаючы ягоную вокладку. Пачаўшы чытаць артыкул, я не дайшоў да канца старонкі, як «вокны» кампютэрнай праграмы, пра якую я чытаў, пачалі замяняцца нявыразнымі вобразамі з далёкай даўніны, дакладней кажучы 48-гадовай даўнасьці.



*Чатыры марскія кантэйнэры з мэдыкамэнтамі й мэдычнымі прыладамі на пляцы Незалежнасьці ў Менску. Фота аўтара.*

вопраткай. Усё гэта, вартасьцяй больш за два мільёны даляраў, было набыта Фондам Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, узначальваным Мітрапалітам Мікалаем, і завезена на Беларусь арганізацыяй Сітыгоўп Інтэрнашэнэл, якую ачольваюць пастар Пол Мор і ягоная жонка Шэран Мор. Чатыры марскія кантэйнэры былі адпраўленыя караблём у нямецкі порт Брэмэнгафэн. Адтуль яны павінны былі быць прывезеныя цягніком у Польшчу, там пераладаваныя на грузавікі і дастаўленыя 24 кастрычніка ў Менск. Але дастойны Пол Мор перасьцярог нас, што ў сувязі са складанасьцямі на міжнародных межах дата прыбыцьця грузу ў Менск была хутчэй за ўсё вельмі аптымістычнай.

Мы з жонкай Нінай выехалі зь Нью-Ёрку 25 кастрычніка і меліся спаткацца з Полам і Шэран Морамі ў Менску ўвечары 26 кастрычніка (Шэран выехала ў Менск два тыдні раней, а пастар Мор — тыдзень перад намі, каб парабіць захады для сустрэчы грузу, улякаваньня яго і раздачы мэдычных прыладаў). На наша зьдзіўленьне мы спаткаліся з П. Морам у шанонскім аэрапорце ў Ірляндыі ў часе перасадкі. Ён варочаўся назад на спатканьне з урадаўцамі ў Вашынгтоне адносна вялікае партыі харчоў для Беларусі. Ён сказаў нам, што падтрыхтоўка да сустрэчы мэдычнага грузу належна праводзіцца, што сп-ня Мор займаецца папяровым упляноўваньнем маршруту на час нашага тыднёвага побыту ў Менску ды што сустрэне нас на аэрапорце.

**У беларускім самалёце на коўзкім палавіку**

Мы селі ў Шаноне на беларускі самалёт Аэрафлоту (на 67 асобаў) для палёту ў Менск. Пасажыраў усіх ляцела чалавек 16 і было дзе выбіраць месцы. Першае, што я заўважыў, увайшоўшы ў самалёт, гэта непрымацаваны палавік, канцы якога заходзілі адзін на адзін па якіх-небудзь дваццаць цэнтымэтраў. Ідучы ўздоўж праходу, шукаючы выгаднейшага месца, я адчуваў, як палавік рухаецца пад нагамі і падумаў сабе, што такая сытуацыя на Захадзе абсалютна немагчымая, яна не дала-б спаць тым, хто нясе адказнасьць за бясьпеку пасажыраў. Гммм… і няма

Ніна і я пакінулі Беларусь, калі нам было па сем гадоў, і цяпер мы варочаліся туды ўпяршыню пасьля 48 гадоў. Пазіраючы на старонкі часапісу, я бачыў уперамешку вобразы людзей, мясьцінаў і рэчаў. Я думаў сабе: колькі з гэтага — сапраўднае, а колькі — уява, спароджаная ў маіх думках? Гэтыя лятункі трывалі ўсю рэшту палёту, перапыняныя кароткімі гутаркамі, перакускай і дрымотай. Жонка, паглядаючы праз вакно, неяк сказала: «Вунь мясьцінамі сьнег на зямлі». Я зірнуў і праз хмары пабачыў белыя палі з лапінамі цёмназялёнага і жоўтазалатога колеру. Сонца якраз асядала за далягляд, і толькі аранжавыя водблескі, што мянялі сваё адценьне на сьветлазалатое, здраджвалі месца ягонага схованча. У меру таго як самалёт зьніжаўся, мы распазнавалі, што цёмназялёныя лапіны — гэта сасновыя лясы зь перасыпам беластволых бярэзін, якія стрымвалі яшчэ на сабле жоўтазалатое лісьцё.

**У Менску: сыстрэча зь бюракратызмам**

Мы прыбылі ў Менск коратка перад пятай увечары. Паколькі мы не дасталі візаў перад ад'ездам, нам трэба было атрымаць іх на аэрапорце. На сваіх заявах мы зазначылі, што мэта нашага прыезду — дастаўка гуманітарнай дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Чыноўнік сказаў нам, што звычайны кошт візы — 40 даляраў — будзе скасаваны, але нам трэба мець ліст ад Міністэрства аховы здароўя ў пацьверджаньне нашых слоў. Я паясьніў, што гэткага ліста мы з сабой не маем і, каб заашчадзіць час, я згадзіўся заплаціць кошт візы. Але ўрадавец адразу-ж заявіў, што ён ня можа браць плату, бо мы прыбылі з гуманітарнай місіяй, ды разам з тым ён мусіць мець ліст ад Міністэрства аховы здароўя. Раптам падыходзіць нізкі каранасты дзядзька ў цывільным і няўпрыкметку, наколькі можна было, выцягнуў з кішэні пасьветчаньне, мільгануў ім перад падўцам ў шапнуў яму колькі слоў. Чыноўнік, зь якім я вёў усю сваю гутарку, абярнуўся да нас, даў нам нашыя візы і прамовіў з усьмешкай: «Вось вам вашыя візы, а ліст ад Міністэрства аховы здароўя вы прынесяце, калі будзеце ад'яжджаць назад у Злучаныя Штаты». Я папытаўся, дзе-ж я дастану гэткі ліст. Ён адказаў: «Вам яго прынясуць».

На аэрапорце нас сустрэлі Шэран Мор і Ірэна Грыцэнка (наша правадніца на час побыту), Валянціна Трыгубовіч, ейны сын Сяргей і колькі іншых знаёмых. Наш заўтрашні маршрут даваў нам вольны час да шостай гадзіны ўвечары, калі меўся адбыцца канцэрт у наш гонар у рэспубліканскім Палацы піянераў і школьнікаў. Мы рашылі, што ў міжчасе будзе, бадай, найлепшая нагода наведаць мясьціны нашага паходжаньня. А паколькі мая была шмат бліжэй, чым Нініна, мы пастанавілі паехаць у Вялейку, невялікі горад (90.000 жыхароў) 75 міляў на паўночны захад ад Менску.

**Вобразы мінулага й дэталі сучаснасьці**

Дзень быў пахмурны з тэмпэратурай каля замярзаньня. Мы выехалі зь Менску недзе а 10:15 ураньні і прыбылі ў Вялейку пад поўдзень. Дарога на Вялейку — найбольш двубаковая аўтастрада, пераважна цымэнтаваная, часткава асфальтаваная, у добрым стане з даволі невялікім рухам аўтамабіляў. Але аўтамабілі найчасьцей — павольныя грузавікі, і наш шофэр, Коля, часта дадаваў яшчэ адну паласу дарогі, каб абмінуць павольны грузавік. Я зрабіў памылку, сказаўшы яму, што ён быўбы добрым таксістам у Нью-Ёрку. Гэта толькі падахвоціла яго абганяць аўтамашыны.

Пад'яжджаючы да Вялейкі я пабачыў здалёк будынак з чырвонай цэглы і адразу-ж пазнаў каталіцкі касьцёл, каля якога я часта хадзіў дзіцём з маці ў нашу праваслаўную царкву, што знаходзілася за пару кварталаў далей на другім баку тае самае вуліцы. Адсюль царквы ня было відаць і, зацікаўлены, я папрасіў шофэра праехаць каля касьцёла. Пад'ехаўшы пад касьцёл, я пабачыў і меншы белы будынак царквы на другім баку вуліцы. Калі мы набліжаліся да яе, я зьдзівіўся, наколькі запамяталіся мне ейныя дэталі. Здавалася, што я іх бачыў учора, нават калёры былі тыя самыя, бела-блакітныя купалы і абводка. А гэта-ж 48 гадоў таму я хадзіў тры мілі ад свайго дому да царквы. Едучы далей па вуліцы, я пазіраў на знаёмыя рэчы і аднача́сна не пазнаваў іх. Быццам цябе туман ахутаў — ты знаеш, дзе ты, і не пазнаеш дэталяў. Пасьля нейкага кілямэтра дарогі рэчы ізноў сталі знаёмымі: я пазнаў хату, у якой жылі два мае сябрукі і дзе я часта гуляў зь імі. Я папрасіў шофэра спыніцца. Пазіраючы на вокны дому, я ўсё йшчэ мог бачыць двух хлопчыкаў, што гулялі ў пяску каля хаты, ракопваючы раўчукі, выліваючы ваду ў іх і назіраючы, як яна сплывае з горкі на вуліцу. Пасьля ў гутарках з навакольнымі людзьмі я мог пацьвердзіць, што сапраўды гэта была хата, у якой жылі мае два сябры. Я падумаў сабе, што я абавязкава мушу ім расказаць пра гэта, калі вярнуся назад у Амэрыку (яны абодвы жывуць цяпер у Злучаных Штатах, і мы далей вельмі блізка сябруем).

**«Вялікія хлопцы» ня плачуць**

Недалёка за гэтай хатай быў калісьці кавалак дарогі, кілямэтраў два, з полем паабапал і з роўнымі радамі бярэзін на кожным баку. Гэта было мае ўлюбёнае месца. Я памятаю, як малым хлапчуком хадзіў па гэтай дарозе з мамай у царкву і чуўся ад гэтага «большым» і неяк «важнейшым». Часамі я быў сапраўды змучаны пасьля пяцёх кілямэтраў дарогі і прасіў маму, каб яна паднесла мяне, але ніколі на кавалку дарогі, дзе паглядалі на мяне бярэзіны. Памятаю аднаго сонечнага цёплага дня, калі я йшоў басанож за мамай і, нясучы ў руках чаравікі, усё больш і больш заставаўся ззаду, яна хацела паднесьці мяне, але я адмовіўся. Даганяючы маму, я спатыкнуўся на камень і ўпаў. Я хуценька падхапіўся. Боль быў страшны, з пальца цякла кроў і я зьбег на бок дарогі, усадзіў палец у цёплы пясок, каб спыніць кроў. Мне так хацелася плакаць, але я ўстрымаўся — бо-ж «вялікія хлопцы» ня плачуць.

**Бярэзіны чакалі!**

Выглядала так, што гэта была крайняя хата, далей ужо будынкаў ня было. Я ўглядаўся за невялікі пагорак, каб пабачыць «свае» бярэзіны: ці яны яшчэ там? На часінку я пачуўся рашчараваным, бо ўсё, што я бачыў, гэта пару яблынь паабапал дарогі. Але крышку далей я ўгледзеў ня толькі яблыні, але й бярэзіны. Калі мы пад'ехалі далей, мне адкрыўся краявід з двума радамі бярэзін пабапал дарогі. Сьветлая белая кара, якую я памятаў, сталася вапністабелай, пабольшала на ёй чорных пятнаў. Некаторыя дрэвы пападалі, зьявіліся ў бярозавым радзе прагаліны, але ўсё-ж бальшыня іх засталася стаяць. Яны мне падаліся больш паважнымі і йзноў я адчуў прыліў цёплай радасьці. Пераводзячы зрок на далейшыя бярэзіны, я паплыў у ўспамінах у мінуўшчыну, у якой нельга было распазнаць паасобных здарэньняў, дзе вобразы зьліваліся ў непазнавальную, але знаёмую субстанцыю. Я адчуваўся адарваным ад патоку часу, і мне падумалася, што я цяпер лепш разумею творы Франца Кафкі: я ня думаў пра яго ад сваіх студэнцкіх гадоў. У гэтым мамэнце якраз я адчуў далікатны дотык і пачуў жончын ціхі голас: «Прачніся!» Зварачаючыся да Ніны, я лагодна прамовіў: «Бярэзіны, гэтулькі гадоў яны чакалі на мяне». І зноў мой зрок памутнеў, але гэтым разам ад сьлёз. Я хутка зьмяніў тэму гутаркі, бо-ж урэшце "дарослыя мужчыны" ня плачуць.

Я ведаў, што хаты, дзе я нарадзіўся, няма ўжо, і што вельмі мала каго я ведаю тут. Мы зайшлі ў хату мае цёткі. Цёткі ўжо няма, а ў хаце жыве ейная нявестка са сваёй 90-гадовай маці. Пра яе я ведаў толькі зь лістоў. Дзіцём я часта наведваў цётку, бо ейная хата была блізка ля школы і мне вельмі хацелася хадзіць у школу ды гуляць са старэйшымі хлапцамі, хоць мне тады было толькі 4-5 гадоў.

Мы зьелі позны абед і пасьля, як здавалася, кароткай гутаркі зь цётчынай нявесткай агледзеліся, што каб паспець на канцэрт, нам трэба было выяжджаць назад у Менск.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

**Аляксандар Сільвановіч**

## ПРА БЕЛАРУСЬ У АМЭРЫКАНСКІХ ДАВЕДНІКАХ

Што напісана пра Беларусь у сёлетніх выданьнях папулярных амэрыканскіх настольных даведнікаў, якімі кожны карыстаецца, калі трэба хутка й коратка даведацца пра той ці іншы факт? Ёсьць два найчасьцей ужываныя гэткія даведнікі: 1. The World Almanac and Book of Facts (published by Pharos Books, A Sripps Hooward Co., New York) і 2. Information Please Almanac (Houghton Mifflin Co., Boston).

Першы зь іх дае карацейшую інфармацыю пра Беларусь (менш за поўкалёнкі друку) і тэндэнцыйную. Пісаў яе ці не паланафіл, бо выкрыўленая статыстыка на карысьць палякоў, сказана, што іх у Беларусі 13 працэнтаў. У сапраўднасьці-ж, паводле перапісу 1989 году, палякоў Беларусі налічваецца 4,1 працэнта, як гэта правільна падае другі даведнік. Тэндэнцыйна ў першым даведніку таксама сказана, што «Пасьля Другой сусьветнай вайны Беларусь пабольшала тэрыторыяй праз далучэньне Саветамі частак паўднёва-ўсходняй Польшчы».

У даведніку The 1993 Information Please Almanac інфармацыя пра Беларусь шмат дэтальнейшая і праўдзівейшая.

## ЗА ЯКУЮ БЕЛАРУСЬ ВАЮЕ ЎЛАДЫКА ФІЛАРЭТ?

Чытачы газэты «Літаратура і Мастацтва» (8.I.93) мелі нагоду прачытаць абвінавачаньне маскоўскім Экзархам Мітрапалітам Філарэтам Каталіцкае Царквы на Беларусі за ейную прапаганду палітычнай пальшчызны ў касьцёлах. Неўзабаве пасьля гэтага ў газэце «Зьвязда» (4.II.93) зьявілася заява Мітрапаліта Казіміра Сьвёнтака аб тым, што падобная дзейнасьць была «два гады назад», але цяпер, заявіў Арцыбіскуп Сьвёнтак, «у мяне ўжо больш году дзейнічае забарона, і нідзе ніводнага флагу (польскага — рэда. «Б-са») няма, а дзе быў, там зьнялі».

Гэта добра, што Ўладыка Філарэт бароніць беларусаў ад польскага экспансіянізму. Што ня добра, вельмі блага, што ён ня робіць таго самага ў дачыненьні да экспаспансіянізму расейскага. Вось адна з паказальных праяваў гэтага ўсходняга экспансіянізму, якая выявілася аж на другім канцы сьвету, у Амэрыцы.

Выдаваны ў Нью-Ёрку часапіс расейскіх скаўтаў «Вестник руководителя» (№ 405, сьнежань-студзень 1992/93) зьмясьціў фіксыміле ліста «Саюза скаўтаў Беларусі», падпісанага старшынём ССБ Ігарам Косьцевічам і адказным сакратаром гэтай арганізацыі Маратам Навіцкім. Ліст напісаны па-расейску. Пачынаецца ён заявай, што «Все мы дети одной Родины — Великой Руси, которая несмотря на нынешнее положение остается неделимой и вечной Империей».

Ігар Косьцевіч з Маратам Навіцкім — не адны сёньня на Беларусі, якім сьніцца «непадзельная і вечная Імпэрыя».

Навіна ня ў гэтым, а ў тым, што, як сказана ў іхным лісьце, «Союз Скаутов Беларуси находится под покровительством Белорусской Православной Церкви и Патриаршего Экзарха Всея Белоруссии Высокопреосвещеннейшего Митрополита Минского и Слуцкого Филарета».

Дык для каго адваёўвае Беларусь Уладыка Філарэт, калі ён атакуе прапольскую Каталіцкую Царкву на нашай Бацькаўшчыне — для вольных беларусаў ці для «неделимой и вечной» маскоўскай імпэрыі, зь якой беларусы выйшлі нядаўна ледзь жывыя нацыянальна?

**Аркадзь Будзіч**

## АРЦЫБІСКУП КАНДРУСЕВІЧ РАЗУМЕЕ ПАТРЭБЫ БЕЛАРУСАЎ

У нядзелю 28 лютага Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Апостальскі Адміністратар на Эўрапейскую частку Расеі, быў гасьцём ньюёркскага Кардынала О'Конара, узяў удзел у багаслужбе ў катэдры Сьв. Патрыка. Уладыка Кандрусевіч быў прызначаны ў ліпені 1989 году за Апостальскага Адміністратара на Беларусі, а пасьля пераведзены ў Маскву. Ягоны прыезд у Злучаныя Штаты зьвязаны з кампаніяй збору сродкаў на дапамогу Каталіцкай Царкве ў Усходняй Эўропе.

Пасьля багаслужбыў у катэдры Сьв. Патрыка група беларусаў мела нагоду пагутарыць з Арцыб. Кандрусевічам, распытацца пра стан рэлігіі на Беларусі, падрыхтоўку кадраў каталіцкіх сьвятароў, ролю беларускае мовы ў жыцьці касьцёла на Беларусі. Уладыка Кандрусевіч, які дасканальна валодае беларускаю мовай, выявіў добрае разуменьне патрэбаў беларускіх каталікоў і прыхільнасьць да справы забесьпячэньня вернікаў і сьвятароў адпаведнай беларускамоўнай літаратурай. Сам ён робіць уражаньне энэргічнага й дабразычлівага чалавека, які ў прынцыпе падтрымвае беларускае нацыянальна-рэлігійнае адраджэньне.

**Уладзімір Дзехцярук**

### ДЫК КАЛІ-Ж?

*Беларускую гаворку*
*Можна чуць паўсюдна ў сьвеце —*
*У Нью-Джэрзі і ў Нью-Ёрку,*
*Ў Гайленд-Парку й Мангасэце.*

*Можна чуць у Ватыкане,*
*Ў Вініпэгу і ў Ашаве,*
*Ў Іліноі, ў Мічыгане,*
*Ў Беластоку і ў Варшаве.*

*Можна чуць яе ў Бэрліне,*
*ў Уругваі, ў Парагваі,*
*Можна чуць на Сахаліне,*
*І ў Віленскім нашым краі.*

*Можна чуць яе ў Сыднэі,*
*Ў Адэляйдзе і у Пэрце,*
*Можна нават у Карэі,*
*Нават ў Афрыцы, паверце.*

*Можна чуць яе у вёсках,*
*Можна чуць яе у полі*
*ў шчырых песень адгалосках*
*Аб нялёгкай нашай долі*

*Ад Нароўлі аж да Пскову,*
*Ад Гародні да Смаленску...*
*Дык калі-ж мы нашу мову*
*ўрэшце будзем чуць у Менску?*

## ДА ВЕДАМА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Ад Рэдакцыі: *Ніжэй зьмяшчаем атрыманую ад сп. Г.М. Бураўкіна, Пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН, прысланую яму сп. Я. Лецкам інфармацыю аб Зьезьдзе беларусаў сьвету.*

Першы Зьезд беларусаў сьвету будзе праходзіць у Менску ў памяшканьні Дзяржаўнага тэатру опэры і балету 8-10 ліпеня. Разьмяшчэньне і рэгістрацыя ў гатэлі «Беларусь» зь 5 ліпеня. 6 ліпеня адбудуцца ўрачыстасьці ў Нясьвіжы і Наваградку, якія завершацца Ўсебеларускім Купальлем. 7 ліпеня адкрыцьцё Нарачанскага Форуму для дзяцей і моладзі беларускага замежжа з адпачынкам, навучаньнем і экскурсіямі на працягу двух тыдняў па славутых мясьцінах Беларусі. Побыт у Беларусі ўдзельнікаў Зьезду і Форуму забясьпечваецца. Просьба да беларускіх арганізацый і асоб падаваць заяўкі на ўдзел па адрасе: 220053, Беларусь, Менск, Даўгінаўскі тракт — 52/9. Тэл. і факс Старшыні Рады Яўгена Лецкі (37-05-44), намесьніка па далёкаму замежжу Лявона Казыры — 38-44-37 (хатні), па блізкаму — Валеры Герасімава — 26-63-52 (хатні), 20-10-66 (службовы), «Бацькаўшчыны» — 27-32-38.

Прашу давесьці гэтую даведку да ведама нашых землякоў у ЗША і Канадзе, каго гэта цікавіць.

## ПЕРАМОГА ВІТАЛІЯ ШЧЭРБЫ

На гімнастычных спаборніцтвах у гор. Арлянда ў штаце Флярыда 6 сакавіка беларускі гімнаст Віталі Шчэрба, шасьціразовы чэмпіён Барсэлёнскай Алімпіяды, здабыў перамогу ў трох з шасьці відаў змаганьня і стаўся чэмпіёнам у агульным заліку. Спаборніцтвы праходзілі паводля шкалы ад лягчэйшых намуроў да цяжэйшых. Шчэрба быў адзіным атлетам, які на 10-бальнай шкале атрымаў 9,7. Усіх сваіх магчымасьцяў беларускі атлет не прадэманстраваў у Арлянда. Ён сказаў, што другую палавіну спартыўных прыхватак ён пакажа на сусьветным чэмпіянаце, які адбудзецца ў красавіку ў Ангельшчыне. («НЁТ», 7.III.93).

## «НАША СУВЭРЭННАСЬЦЬ ПАД ПАГРОЗАЙ»

(Заканчэньне з 3-й ст.)

канешне, працуе на рэстаўрацыю старых парадкаў. Аб гэтым сьветчыць і нядаўная заява ста беларускіх пісьменьнікаў, якія засмуткавалі ў сувэрэннасьці і просяцца прыняць іх назад у гэты рэакцыйны расейскі творчы саюз. Ну, што тут можна сказаць. Відаць, працэсы, якія адбываюцца ў сьвеце, яшчэ не закранулі нашу творчую інтэлігенцыю, яшчэ патрэбен час, каб яна нешта зразумела.

**Г. А.:** Што дзіўна, а можа й не, што асобныя прадстаўнікі і беларускай эміграцыі вельмі палюбілі сустракацца з афіцыйнымі асобамі рэспублікі. І, грунтуючыся на іх выказваньнях, пачынаюць маляваць становішча ў Беларусі зусім не такім, якое яно ёсьць на самай справе. Ці не таму такі адважны Саўмін і аргкамітэт па скліканьню Міжнароднага Форуму Беларусаў, якія спадзяюцца на спакойную рэакцыю за мяжой.

**В. Б.:** Наконт беларускай эміграцыі я, канешне, мала магу сказаць. Я думаю, што вы там, эмігранты, каторыя ў Эўропе і ў Новым сьвеце, у гэтым сэнсе больш ведаеце. Я хацеў-бы толькі сказаць пра становішча справы з сусьветным кангрэсам беларусаў і павінен заявіць, што становішча гэтае ўсё ўскладняецца. Галоўнае заключаецца ў тым, што «Бацькаўшчына», зьяўляючыся ініцыятарам, ня мае ўласных сродкаў і таму змушана зьвяртацца да ўраду. Урад-жа, адмаўляючы ў дапамозе, прэтэндуе на кіраўніцтва ў гэтай справе. Найперш гэта выяўляецца ў фармаваньні аргкамітэту кангрэсу, які дагэтуль не ўпарадкаваны. Зноў-жа трэба мець на ўвазе, што час, які мінуў зь лета мінулага году, калі было прынята рашэньне аб кангрэсе, унёс свае надта значныя зьмены ў палітычную сытуацыю ў краіне. На Беларусі ўсё больш актывізуецца КПБ, якая адноўлена і зусім блізка апынулася каля ўлады. А адносіны камуністаў да эміграцыі даўно вядомыя. Вядома, што яны гэтую эміграцыю не шануюць у прынцыпе і ўважаюць яе ня інакш, як варожай, здрадніцкай. Адпаведнае і іхнае стаўленьне да яе. Во й цяпер: цэнтральныя беларускія газэты ўжо распачалі прапагандысцкую кампанію супраць некаторых слынных дзеячоў эміграцыі. Штатныя супрацоўнікі КДБ ды іх дабраахвотныя памочнікі выступаюць з артыкуламі, дзе даюцца традыцыйныя для іх ацэнкі дзейнасьці Арсеньневай, Кушаля. Нядаўна газэта «Зьвязда» пад маркай плюралізму, надрукавала вязіцы, па сутнасьці фальсыфікаваны, матарыял пра Салжаніцына і ягонага ката-турэмшчыка. Мэта гэтага фальсыфікату надта-ж празрыстая — скампраматаваць слыннага эмігранта, нобэлеўскага лаўрэата, і абяліць бэрыеўскія органы. Матарыял наскрозь цынічны, амаральны, па сутнасьці з пафасам наскрозь варожым галоўным ідэям арганізацыі «Бацькаўшчына».

Даўно й добра вядома, што камуністы надта прагматычныя людзі. Усё, што яны робяць — менавіта робяць, а не гавораць — служыць іх пэўным мэтам. Менавіта гэтым можна вытлумачыць зьмены іхных адносін да беларускай дыяспары. Як надта вострай паўстала праблема Чарнобыля, тады яны ўспомнілі пра эміграцыю, здабывалі празь яе сродкі, езьдзілі да яе ў госьці, заводзілі знаёмствы і сувязі. Вядома, шмат якія і ў інтарэсах КДБ. А як мінула тая вастрыня Чарнобыля і было ўзята ўсё, што можна было ўзяць, тады і адносіны іх да эміграцыі сталі іншыя, сталі ранейшыя, традыцыйна абыякавыя, калі ня яўна варожыя.

Праблема кангрэсу застаецца нявырашаная яшчэ і з тае прычыны, што ня вызначыў свае пазыцыі да ягонага скліканьня і Беларускі Народны Фронт. Натуральна, што бяз гэтай самай уплывовай палітычнай сілы на Беларусі кангрэс склікаць немагчыма. Безь яго ў кангрэсе ня будуць удзельнічаць шмат якія задазіночаныя беларусаў. Усё гэта змушае глядзець на ідэю кангрэсу як надта праблематычную.

**Г. А.:** І апошнае пытаньне: ці не здаецца Вам, што тое, што зараз адбываецца ў рэспубліцы, у нейкім сэнсе нагадвае тое, што адбывалася ў пэрыяд станаўленьня БНР. Маю на ўвазе перш за ўсё, што і тады і цяпер ішла барацьба за станаўленьне дзяржаўнасьці Беларусі, яе незалежнасьці. Чым тады яна скончылася, добра вядома. Ці вытрымаем, пераможам гэты раз?

**В. Б.:** Тут цяжка сказаць. Я не аптыміст, але я ведаю, што для таго, каб чаго-небудзь дасягнуць, патрэбнае, канешне, аб'яднаньне ўсіх дэмакратычных нацыянальных сілаў у Беларусі. Я думаю, што гэта разумеюць ня толькі беларусы, але і нашы суседзі — украінцы, напрыклад, або прыбалты. Вось у гэтым сэнсе я хацеў-бы зьвярнуць увагу, што на Ўкраіне ствараецца антыімпэрскі, антыкамуністычны фронт. Калі ўлічыць, што ў нас становішча і адносіны з камуністамі яшчэ больш вострыя, чым на Ўкраіне, дык неабходнасьць такога фронту ў нас яшчэ болей насьпела. І пагэтаму я думаю, што ў гэтым сэнсе будзе нешта зроблена, і нашы дэмакраты ўрэшце зразумеюць, што калі яны і па-ранейшаму будуць такія раздробленыя, рознанакіраваная будзе іх палітыка, дык уся наша сувэрэннасьць і наша дзяржаўнасьць асуджаная на няўдачу. Таму трэба аб'яноўвацца як мага хутчэй.

## В. БЫКАЎ ПРА ПАГРОЗУ СУВЭРЭНІТЭТУ БЕЛАРУСІ

У інтэрв'ю газэце «Зьвязда» (5.1.93) Васіль Быкаў сказаў: «Каб колькі-небудзь пасьпяхова рэалізаваць ідэю сувэрэнітэту, трэба як мінімум палітычная воля кіраўніцтва, калі не ўсяе нацыі. У нас-жа, як вядома, гэты сувэрэнітэт зваліўся бы сьнег на галаву, і кіраўніцтва дагэтуль ня ведае, што зь ім рабіць. (...) Баюся, што ў такіх варунках Беларусі пагражае вялае пераraджэньне ў звыклы «суб'ект канфэдэрацыі» або фэдэрацыі — на радасьць намэнклятуры пры поўнай абыякавасьці зьняверaных мас».

## БЕЛАРУСЬ НЕ ГАТОВАЯ ДА КАНФЭДЭРАЦЫІ

Вярхоўны Савет Беларусі, даручыўшы свайму старшыні Станіславу Шушкевічу падпісаць праект статуту Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў (СНД), засьцярогся ад падпісваньня пункту статуту аб калектыўнай абароне (чытай: ваенным саюзе з Расеяй), паколькі гэта пярэчыла-б статусу РБ як сувэрэннай дзяржавы. Сп. Шушкевіч у інтэрв'ю маскоўскаму прэсаваму агенцтву Інтэрфакс сказаў: «Дарога да канфэдэрацыі, калі такая наагул магчымая, даўгая, і патрэбен час на тое, каб іншыя рэспублікі прынялі гэтую ідэю. Тымчасам Расея і Казахстан заклікаюць да такой канфэдэрацыі. У іх могуць быць прычыны для цясьнейшага саюзу, але ідэя такая няпрыймальная для Беларусі, бо яна пярэчыць канстытуцыі, якая кажа, што мы шукаем нэўтральнага статусу».

*(Пераклад з ангельскай, паводля FBIS, 28 Dec. 92, p. 33)*

*З жыцьця ў Аўстраліі*

## ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

У гор. Мэльбурне, штат Вікторыя, адбыўся 10-21 студзеня сёлета 10-ты зьезд Выканаўчага Камітэту Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі. Удзельнікі зьезду, які прайшоў у Беларускім Грамадзкім Доме, зрабілі агляд працы за мінулыя два гады. Да Фэдэральнай Рады (ФР) належаць усяго 9 арганізацыяў, палітычных і рэлігійных, якія стаяць на грунце Акту 25 Сакавіка 1918 году.

Нарады пачаліся пасьля блаславенства зьезду аа. Міхаілам і Аляксандрам. Адчыніў зьезд старшыня ўступаючай управы сп. А. Груша, запрапанаўшы выбраць мандатную камісію, у якую ўвайшлі а. А. Грыцук і сп. У. Шнэк. На старшыню прэзыдыюму быў выбраны сп. У. Сідлярэвіч, а на сакратара сп. Паўла Гуз. Сакратар П. Гуз прачытаў пратакол папярэдняга зьезду, што адбыўся два гаты таму ў Адэляйдзе. Старшыня Ваканаўчага Камітэту сп. А. Груша ў сваёй справаздачы падкрэсьліў вельмі важную акцыю збору грошай на дапамогу ахвярам чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі. Вынікі збору былі вельмі добрыя — 37 тысячаў даляраў, якія сп. Груша сам завёз у Гомельскую абласную больніцу, за што дасталі вялікую падзяку ад нашых суайчыльнікаў.

Сакратар сп. П. Гуз у сваёй справаздачы зазначыў, што адказная праца збору сродкаў на дапамогу чарнобыльцам праводзіцца далей і падзякаваў нашым зборшчыкам у Сыднэі спсп. М. Зую, М. Ціхану, Плахоцкаму, М. Лужынскаму; у Мэльбурне — спсп. Ул. Сідлярэвічу, А. Грушу і Надзі Груша ды гуртку «Каліна» сп-ні Тамары Басарыновіч; у Пэрце — Беларускаму Аб'еднаньню і сп. М. Раецкаму; у Адэляйдзе — прыходу БАПЦ, а. Міхаілу Бурносу і Беларускаму Аб'еднаньню.

Сп. Ул. Сілярэвіч, скарбнік ФР і Чарнобыльскага Фонду, даў вельмі дэталёвую справаздачу, за што рэвізійная камісія прызнала яму асабіста падзяку.

Адзін па адным далі свае справаздачы зь дзейнасьці дэлегаты іншых арганізацыяў. Рэвізійная камісія прызнала ўсім ім абсалюторыюм.

Падсумаваўшы ўсё пройдзенае, зьезд выбраў на наступныя два гады ўправы ФР у наступным складзе: А. Груша — старшыня, Паўла Гуз — сакратар, Ул. Сідлярэвіч — скарбнік. У рэвізійную камісію на месца хворага сп. Янкі Рольсана выбралі сп-ню Надзю Груша.

Сп. Гуз прачытаў праект рэзалюцыі, які ён апрацаваў. Пасьля абмеркаваньня кожнага пункту было даручана сп. Сідлярэвічу перагледзець і на другі дзень рэзалюцыя была прынята. У ёй у 12 пунктах выказанае дамаганьне й падтрыманьне справы беларусізацыі школьніцтва, уводу беларускай мовы ва ўсе дзяржаўныя ўстановы Беларусі, войска, сьв:тыні; арганізацыі беларускае нацыянальнае арміі; зьмены савецкіх геаграфічных назоваў і назоваў вуліцаў на беларускія; замены слова «Савет» беларускім словам «Рада»; увядзеньня нацыянальнае валюты; звароту беларускіх этнічных земляў у склад беларускай дзяржавы; адданьня сялянам на ўласнасьць зямлі; далейшага падтрымваньня БНФ і ініцыятывы арганізацыйнага камітэту «Бацькаўшчына» дзеля аб'яднаньня ўсяго беларускага народу, адраджэньня беларускай культурнай спадчыны; захадаў, каб аўстралійскія ўстановы аказвалі гуманітарную дапамогу ахвярам чарнобыльскай катастрофы на Беларусі.

На другі дзень зьезду быў наладжаны пікнік каля прыгожага рэзэрвуару пад Баларатам з удзелам беларускага грамадзтва Мэльбурну. Цэлы дзень гучэлі з касэтак і ў выкананьні нашых пяюноў ды пяюньняў беларускія песьні, музыка.

Трэці дзень быў днём развітаньня. Разьяжджаліся па сваіх мясьцінах з думкамі, што наступнымі двума гадамі яшчэ больш прыложымся да справы дапамогі Бацькаўшчыне. Вось, прыкладам, гурток «Каліна», які дзейнічае пры нашай царкве ў Мэльбурне. Пад канец 1992 году маладыя дзяўчаты далі добры прыклад старэйшым. Яны зарганізавалі вечарыну і іншыя імпрэзы, прыбытак зь якіх, больш за 2000 даляраў, аддалі ў Чарнобыльскі фонд. За гэта ім належыцца вялікая падзяка, а асабліва іхнаму кіраўніцтву: сп-ні Тамары Басарыновіч, Ірэне Кулакоўскай і Веры Кулакоўскай. Жадаем ім як найлепшага здароўя і плённай працы на грамадзкай ніве на карысьць нашай дарагой Бацькаўшчыны Беларусі. А іхным бацькам — беларускі дзякуй за тое, што выгадавалі добрых дзяцей, аддданых дачок свайго народу. Шчасьці ім Божа.

Жыве Беларусь!
Мэльбурн, 2.II.1192 г.

**Паўлюк Дуброўскі**

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## ДАРАДНІК ШУШКЕВІЧА БАЧЫЦЬ ЦЯЖКАСЬЦІ

У Фундацыі Крэчэўскага ў сыботу 6 сакавіка адбылося інфармацыйны вечар, на якім акадэмік-філёзаф Анатоль Міхайлаў, дараднік Старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслава Шушкевіча, паінфармаваў слухачоў пра сучасны стан на Беларусі. У аўдыторыі былі пасол Беларусі пры ААН сп. Генадзь Бураўкін з жонкай, праф. Томас Бэрд ды іншыя госьці.

Др. Міхайлава прадставіў слухачам старшыня БІНІМу др. Вітаўт Кіпель, зазначыўшы, што дакладчык, хоць пра яго мала пісалася ў беларускім друку, добра ведамы ў навуковых колах Захаду як выдатны спэцыяліст філязофскага кірунку — фэнамэналёгіі.

Сп. Міхайлаў расказаў пра цяжкасьці, перад якімі стаіць цяпер Беларусь, асабліва цяжкасьці эканамічныя і заканадаўчыя; зазначыў таксама, што, як выявілася ў яго нядаўніх падарожжы па Амэрыцы, пра Беларусь у гэтай краіне вельмі слабая паінфармаванасьць.

Па дакладзе адбылася даволі жвавая спрэчка наконт афіцыйнага статусу расейскай мовы ў Беларусі. Дакладчык, які недастаткова валодае беларускай мовай і свой даклад сказаў паангельску, а на пытаньні адказваў парасейску, выказаў меркаваньне, што двумоўе сёньня патрэбнае Беларусі. А гэта таму, што ў некаторых галінах веды, у тым ліку філязофіі, няма належна распрацаванае лексыкі, тэрміналёгіі. Тыя, хто не згаджаўся зь ім, цьвердзілі, што каб распрацоўваць беларускую тэрміналёгію, не абавязкава рабіць расейскую мову другой афіцыйнай мовай рэспублікі.

Пасьля дакладу й спрэчак адбыўся супольны пачастунак, падрыхтаваны стараньнямі Ўправы БІНІМ і ньюёркскага аддзелу БАЗА.

## АМЭРЫКАНСКАЯ КУКУРУЗА БЕЛАРУСІ

Урад ЗША падорыць Беларусі кукурузы на 19 мільёнаў даляраў, а Расеі — пшаніцы й рысу на 102 млн. д., паінфармаваў 12 сакавіка Міністар сельскае гаспадаркі Амэрыкі Майк Эспі. Пры гэтым сп. Эспі сказаў, што ўрад ЗША падтрымвае дэмакратычныя рэформы, якія адбываюцца ў Расеі. («НЁТ», 13.III.93)

# БАРАНАВІЦКАЯ МАЛАЧАРНЯ

**Да гісторыі каапэратыўнага руху ў Заходняй Беларусі і беларуска-польскіх дачыненьняў. Інтэрв'ю зь Пятром Орсам**

**Ад Рэдакцыі:** *У студзені 1988 году Янка Запруднік правёў гутарку са сьв. пам. Пятром Орсам, выпускніком Пражскай палітэхнікі і арганізатарам каапэратыўнага руху ў Заходняй Беларусі. Ніжэй зьмяшчаем гэтае інтэрв'ю.*

**Я. З.:** У Пражскай палітэхніцы, колькі ў ёй было беларускіх студэнтаў, што пасьля вярнуліся працаваць у Заходнюю Беларусь? Бо-ж частка зь іх паехала ў БССР.

**П. О.:** Ня шмат. З мае чацьвёркі — мы трымаліся разам — двух паехала ў Савецкі Саюз, а я і Лявон Гірыс засталіся. Гірыс займаўся на лясным факультэце. Вось ён застаўся. Ён быў сасланы пасьля і пры Хрушчове яго звольнілі.

**З.:** Дык Вы зь ім вярнуліся з Прагі ў Польшчу. Калі?

**О.:** З Прагі я вярнуўся ў 1930 годзе.

**З.:** То Вы ў Празе былі ад 1923 да 30-га?

**О.:** Так, сем гадоў. Я працаваў у горадзе Паддубіцы на малочным заводзе.

**З.:** А палітэхніку Вы ў якім годзе скончылі?

**О.:** У 30-м. Я вучыўся і працаваў.

**З.:** Якая ў Вас была спэцыяльнасьць, калі Вы вярнуліся ў Беларусь?

**О.:** Аграном малачарства. На Беларусі я арганізаваў малачарні, спажывецкія каапэратывы.

**З.:** Гэта тое, што трэба было Беларусі.

**О.:** Толькі цяжка было, бо ня было людзей.

**З.:** А куды Вы вярнуліся — у Навагрудак?

**О.:** У Навагрудак, але там я ня жыў, пабыў толькі два-тры дні і паехаў у Баранавічы, бо там была работа, там ужо працавала каапэрацыя. Пачаў яе адзін чалавек, які ўвесь час быў у Польшчы.

**З.:** Як яго прозьвішча?

**О.:** Толкач Міхаіл. У Баранавічах рабіліся прымітыўныя спробы арганізаваць малачарні, а мы ўжо шырэй узялі. Я найбольш на раёне быў, а гэты хлопец заставаўся ў Баранавічах. Там былі дзьве жанчыны, якія прадавалі масла.

**З.:** А на якім прынцыпе быў пабудаваны ваш каапэратыў? Былі пайкі?

**О.:** Так, былі паі па сто злотаў.

**З.:** І колькі ў вас было ўсіх пайшчыкаў?

**О.:** Мала было, было толькі шэсьць. Але як пачулі, што такая ёсьць магчымасьць збыту прадукцыі, то прыходзілі больш. Я езьдзіў па вёсках. Рабілі сход, на сходзе прыймалі пастанову, што такая й такая малачарня афармлёная ў каапэратыў, і пачыналі працаваць. Некалькі вёсак арганізавалі сваю малачарню, туды прывозілі малако і перараблялі яго на сыр ці масла. Кожная малачарня мела сваё самакіраўніцтва. І такіх малачарняў было ў мяне 14.

**З.:** Гэта ў якім годзе?

**О.:** У 1938-м. А тады мяне перавялі ў Ліду.

**З.:** А як звалася ваша баранавіцкае малачарнае таварыства?

**О.:** Малачарскае таварыства з адказнасьцю паямі.

**З.:** Колькі ў вас было ўсіх пайшчыкаў у 1938 годзе?

**О.:** Каля 50-60.

**З.:** Хто быў галоўным кіраўніком усяе гэтае каапэрацыі?

**О.:** Я быў дырэктарам.

**З.:** Адкуль вы выпісвалі тое, што вам патрэбна было з абсталяваньня?

**О.:** Усё куплялася ў Польшчы.

**З.:** А як ставіліся польскія ўлады да вашай каапэратыўнай ініцыятывы?

**О.:** Нэгатыўна. Шмат шкодзілі.

**З.:** Чаму?

**О.:** Баяліся, што беларусы эканамічную сытуацыю наладзяць — таксама як украінцы ў Галіччыне. Там у іх быў моцны саюз, багаты. Я зь імі трымаў кантакты. Былі такія зімы на Беларусі, калі было надта мала малака. А ў украінцаў наадварот. То я ад іх масла выпісваў, і яны прысылалі мне бяз грошай, у крэдыт.

**З.:** А што Ваша малачарня выраблялa?

**О.:** Масла й сыр галяндзкі. І больш нічога. Часам, праўда, прадавалі там яблыкі ці яйкі.

**З.:** А ў якой форме выяўлялася польскае нэгатыўнае стаўленьне да вашай ініцыятывы?

**О.:** Адагаворвалі кліентаў.

**З.:** Ну, але бізнэс у вас ішоў, калі пачалі зь нічога, а скончылі на 14 малачарнях.

**О.:** Гэта былі невялікія малачарні, была толькі пара вялікіх.

**З.:** А хто быў Вашым галоўным памочнікам?

**О.:** Жонка Ніна, яшчэ з Навагрудзкай гімназіі.

**З.:** Ці на вас накладалі падаткі?

**О.:** А як-жа!

**Сп-ня Ніна Орса:** Вы знаеце, як мы працавалі? Па 18 гадзін у дзень. Трэба было краму глядзець, каб чыста было. Улетку муж паедзе па вёсках, а я застаюся адна. А тут — чатыры гадзіны раніцы, і воз за возам вязуць масла у глыбах па чатыры кілі. І што рабіць? У нас ляднік быў. Я брала малаток, сякеру і запакоўвала тавар. Трэба было таксама паперы афармляць, бо тавар адсылаўся далей у Польшчу, у горад Лодзь.

**О.:** Наша беларускае таварыства перад самай вайной увайшло ў польскую супалку.

**З.:** Вы далучыліся да супалкі?

**О.:** Ня я далучыўся, польскі ўрад нас далучыў. Яны-ж шкодзілі ўвесь час, не хацелі, каб у нас было што-небудзь. І мяне тады прызначылі ў цэнтральную Польшчу. Раней брата Аляксандра (брат Аляксандар быў у Навагрудку настаўнікам) вывезьлі, а пасьля мяне вывезьлі.

**З.:** Гэта ў якім годзе?

**О.:** У 38-м.

**Н. О:** Але нашыя людзі сказалі ім, што калі Орсу перавязуць у Польшчу, то яны не дадуць прадукцыі. І тады нас перавялі ў Ліду.

**З.:** А ці былі яшчэ такія малачарні беларускія, ведамыя Вам, у Заходняй Беларусі?

**О.:** Ня было. Толькі некаторыя багатшыя гаспадары самі рабілі масла. А такіх малачарняў, як нашая, ня было.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

## *КОЛЬКІ ТРЭБА ХАРЧОЎ БЕЛАРУСІ?*

Міністар сельскай гаспадаркі РБ Аляксеей Яновіч сказаў карэспандэнту Інтэрфакса, што Беларусь патрабуе штагоду 10 мілёнаў тон збожжа, а вырошчвае толькі 8 мілёнаў тон; патрабуе 400 тысячаў тон цукровых буракоў, а пад цукровымі буракамі плошча значна меншая, як трэба; патрабуе кухоннай алівы 110 тысячаў тон, а можа прадукаваць толькі адну дзясятую. Яновіч мяркуе, што за пяць гадоў рэспубліка здолее поўнасьцяй забясьпечыць сябе гэтымі прадуктамі. (FBIS, 12.I.93, 53)

## ПАМЯЦІ МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА

Сёлета ў сакавіку мінула сорак гадоў ад сьмерці незабыўнага беларускага Музыкі, кампазытара й хормайстра, Міколы Равенскага. Памёр ён 9 сакавіка 1953 г. ва ўнівэрсытэцкім горадзе Лювэне ў Бэльгіі, дзе пражыў апошнія тры гады разам зь беларускімі студэнтамі, зь якімі ў яго была цёплая дружба і плённае супрацоўніцтва на песеннай ніве. Добра, што цяпер памяць пра кампазытара ажыла й на Беларусі. Гэтак, прыкладам, у часапісе «Полымя» (№ 12, 1992) зьявіўся артыкул Дзіяны Чаркасавай «Альфа і амэга яго жыцьця». Пра Равенскага Чаркасавага пісала таксама ў «Голасе Радзімы». І ў абодвух выпадках дапусьціла (трэба думаць, перададзены ёй кімсьці і бяскрытычна ўспрыняты) паклёп на беларускую студэнцкую грамаду ў Лювэне, у якой і я жыў, і з кампазытарам Равенскім вельмі блізка і супрацоўнічаў, і сябраваў. Чытаючы артыкулы Чаркасавай, мне падумалася, што характарыстыку дачыненьняў Равенскага са студэнтамі яна пераняла ад кампазытаравай пляменьніцы, нябожчыцы ўжо, Тацьцяны Руткоўскай. Пра Руткоўскую ў Лювэне ніхто нічога ня ведаў, аж пакуль не памёр ейны дзядзька. Тады яна зьявілася зь Лёндану (дзе, між іншага, таксама зь беларусамі ў яе ніякага кантакту ня было), каб атрымаць дзядзькаву спадчыну. Калі хавалі Равенскага, я быў у Злучаных Штатах, Руткоўскай ніколі ня бачыў. Казалі мне толькі пасьля, што Руткоўская прыбыла ў Лювэн зь вялікімі прэтэнзіямі і, відаць, зь ня меншымі спадзяваньнямі. Магчыма, што тое, штó напісала пра Равенскага й лювэнскіх студэнтаў Чаркасава, узята ёю ад Руткоўскай — што ў Равенскага, быццам-бы, «не атрымалася (у Лювэне) ўзаемаразуменьня» ды што ён стаўся ў Лювэне «сродкам беларускай прапаганды і крыніцай сродкаў для БНР». Трэба сказаць, што гэта — чысьцейшай вады паклёп або з боку абыякавай да беларускіх культурных вартасьцяў лёнданскай пляменьніцы, або нясьведамая ці сьведамая хлусьня некага іншага, зацікаўленага ў ахайваньні беларускага актыву на эміграцыі.

Дарэчы тут будзе працытаваць поўнасьцяй, што было выдрукавана ў газэце «Бацькаўшчына» (№ 12-13, 25.III.1953 году):

### ПАДЗЯКА

Усім Бэльгійскім і іншым Беларускім Арганізацыям, якія прынялі ўдзел у пахаронах майго дарагога Дзядзькі сьв. пам. Міколы Равенскага, а так-жа Беларускім Студэнтам у Лювэне, якія Яго не пакідалі да апошняй хвіліны, выказваю гэтым маю шчырую падзяку.

**Пляменьніца Т. Руткоўская**

У Міколы Равенскага былі самыя прыязныя, самыя цёплыя дачыненьні і з кіраўніцтвам студэнцкае арганізацыі, і з харыстамі, зь якімі ён часта праводзіў час за сяброўскім сталом у студэнцкім Доме або ў сябе на кватэры. Ніякага багацьця ён ня меў, як ня мелі яго і студэнты, што жылі на скупых кішэнных грашах. Ніякага прыбытку з канцэртнай дзейнасьці хор Равенскага (16 асобаў) ня меў. Кружэлкі, што былі выдадзеныя ў 1952 годзе, былі «таварам» дэфіцытным і не маглі быць іншым, як пра гэта добра ведае кожны беларускі выдавец на эміграцыі, штó-б ён ні выдаваў — кніжку, часапіс, паштоўку, кружэлку ці касэтку. Багацьце ў Равенскага мог бачыць толькі чалавек жадны або абыякава ці варожа настаўлены да тых духовых вартасьцяў, якімі кампазытар жыў. Ён самаахвярна рабіў грамадзкую работу, як рабілі сотні іншых падзьвіжнікаў на эміграцыі, а ў тым ліку і ягоныя сябры-студэнты. Яны яго любілі і захавалі ў сваіх сэрцах ягоны сьветлы вобраз.

**Янка Запруднік**

*Адкрыты ліст праваслаўных беларусаў*

## ДА ЛЮДЗЕЙ ДОБРАЕ ВОЛІ

Добры дзень, паважаная Надзея Кудасава, а разам з Вамі і ўсе беларусы!

Са шчырым прывітаньнем да Вас праваслаўныя беларусы з горада Масты Рэспублікі Беларусь!

Горад наш малады і няма ў ім царквы. Праваслаўным людзям, каб памаліцца аб здароўі, памянуць памёршых, ахрысьціць нашых маленькіх, трэба хадзіць за некалькі кілямэтраў у царкву, якая драўляная і зусім маленькая. Мы вырашылі пабудаваць каменную царкву ў нашым горадзе.

Царква будзе будавацца ў знак іконы Божай Маці «Усіх бязуцешных радасьці». Забудоўшчыкам зьўляецца гэтая-ж маленькая царква Сьвятога Ілы.

Праект на пабудову царквы ўжо гатовы. Кошт пабудовы складзе 19 мільёнаў рублёў. Аднак у сувязі са зьменамі, якія адбываюцца ў нашай краіне, а гэта — шматразовае павялічэньне цэн на ўсё і асабліва на будаўнічыя матэрыялы, мы ніяк ня можам сваімі сродкамі пабудаваць царкву.

Вось і зьвяртаемся да беларусаў, якія пражываюць за мяжой, зь вялікай просьбай аб грашовай дапамозе.

Ды благаславіць Вас Усявышні Бог на доўгія гады жыцьця.

Дапамогу адсылайце па адрасу:
*231600 Беларусь*
*Гродзенская вобласць*
*г. Масты*
*Разліковы рахунак 000701204 у Мастоўскім аграпрамбанку*
*Сьвятаільінская царква*
*(для пабудовы новага храму).*

Магчыма, Вам давядзецца пабываць у нашых краях, просім сустрэцца з намі.

Па даручэньні:
Сьвяшчэньнік Сьвята-Ільінскай царквы: **айцец Касьян**
Стараста: **Ганна Лукашук**
Член царкоўнага Савету: **Ніна Лісай.**

## *НЕ ЗАМЕРЛА МУЗЫКА ДУШЫ*

Пад эгідай Беларускай каталіцкай грамады і музычнага згуртаваньня беларускіх каталікоў выйшаў з друку зборнік «Беларуская каталіцкая музыка. Касьцельныя песьні для зьмешанага хору» пад рэдакцыяй Уладзіміра Неўдаха, арганіста касьцёла Сьв. Тройцы ў Менску. У зборнік увайшлі песьні на Божае Нараджэньне, Вялікі пост, вялікодныя, у гонар Багародзіцы і іншыя — усяго 66. Асноўны матэрыял — збор нотаў, які запрапанаваў кс. Уладыслаў Чарняўскі. Выданьне разьлічана на парафіяльныя, самадзейныя і прафэсійныя хоры.

Духоўная музыка — гэта той пласт культуры, тая крынічанька, якая ачышчае нашы душы. Адраджаюцца, адбудоўваюцца храмы, з глыбінь архіўных выходзяць на сьвятло нотныя аркушы паўзабытых твораў.

**Анатоль Куляшоў**

*ПРЫСЫЛАЙЦЕ НАМ ГАЗЭТНЫЯ ВЫРАЗКІ З ЗАХОДНЯГА ДРУКУ З МАТАРЫЯЛАМІ АБ БЕЛАРУСІ*

## АСАЦЫЯЦЫЯ РАСПАЧАЛА НОВЫ ГОД

Нялёгкім, але даволі плённым быў мінулы год для Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ) — год станаўленьня, пошукаў свайго аблічча. Нягледзячы на арганізацыйныя і фінансавыя цяжкасьці, нам удалося зрабіць некалькі карысных спраў. Сярод іх — Міжнародная навуковая канфэрэнцыя ў Маладзечне «Фарміраваньне і развіцьцё нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў», матэрыялы якой здадзены ў выдавецтва; Міжнародны круглы стол «Беларусь у Вялікім Княстве Літоўскім» (матэрыялы выдадзеныя); беларуска-ангельская сустрэча ў Лёндане; беларуска-літоўская сустрэча ў Гервятах; сумесныя чытаньні ў Вільні, прысьвечаныя 100-годзьдзю з дня нараджэньня Зоські Верас. Некалькі плённых канфэрэнцый наладзілі польскія беларусісты. З дапамогай МАБ скіраваліся зь Беларусі за граніцу стажоры — у Лёндан (тут вялікую дапамогу аказвае віцэ-прэзыдэнт асацыяцыі Дж. Дынглі), Рым, Оксфард. У Вэнэцыі прайшлі першыя беларуска-італьянскія чытаньні, матэрыялы якіх таксама рыхтуюцца (паралельна на дзьвюх мовах) да друку. Нямала беларусістычных публікацый на рахунку ў сяброў асацыяцыі М. Абала (Рыга), М. Банькоўскі-Цуліг (Цурых), Г. Бідэра (Зальцбург), А. Каўкі (Масква), М. Львовіч (Харкаў), А. Насовіча (Беласток), Р. Радзіка (Люблін), Г. Юмарта (Чабаксары) і інш. Перавыдадзеныя рэпрынтным спосабам некаторыя рэдкасьці (у тым ліку «Тралялёначка» Ф. Багушэвіча, копію з адзінага экзэмпляра якой прыслаў з Кракава З. Нядзеля). Здадзеныя ў выдавецтва перакладзеныя на беларускую мову кнігі сяброў МАБ В. Кіпеля, Ю. Туронка, А. Цеханавецкага, першы выпуск «Беларусікі».

Ня менш напружаным абяцае быць і 1993 год. Адна з галоўных яго сустрэч — Міжнародная канфэрэнцыя «Рым-IV» (Гродна, 28 чэрвеня — 2 ліпеня), прысьвечаная суадносінам нацыянальных і рэгіянальных культур Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны, іх пагранічча. У часе канфэрэнцыі адбудзецца і пасяджэньне камітэту МАБ. Беларуска-польская канфэрэнцыя (з польскага боку яе рыхтуе фонд А. Фрыча Маджэўскага), прысьвечаная супольнаму гістарычнаму мінуламу, адбылася 9-12 лютага ў Брэсьце. Ангельскія беларусісты ладзяць у канцы сакавіка прадстаўнічае абмеркаваньне актуальных праблем беларускага адраджэньня. Сябры МАБ прымуць актыўны ўдзел у XI Міжнародным кангрэсе славістаў (Браціслава), канфэрэнцыях у Будапэшце, Лілі, Любліне і іншых гарадах Эўропы.

Адна з важнейшых падзей 1993 году — Сусьветны зьезд беларусаў у ліпені. Сумесна з Цэнтрам імя Ф. Скарыны і «Бацькаўшчынай» МАБ выступіла ініцыятарам стварэньня ў будынку былога Інбелкульту Ўсебеларускага дому, які, спадзяемся, адкрыецца ў часе зьезду. У доме будзе музэйная заля «Беларусы ў сьвеце», экспазыцыі, прысьвечаныя Ф. Скарыне, Інбелкульту, беларуска-іншанацыянальнаму культурнаму ўзаемадзеяньню, Банк інфармацыі, сядзібы Цэнтру, «Бацькаўшчыны» (калі яна згодзіцца), МАБ. З розных краін цяпер паступаюць для Ўсебеларускага дому кнігі, рукапісы, карціны, музэйныя экспанаты. Зробленыя першыя ахвяраваньні (Ю. Станкевіч з ЗША, В. Целеш з Латвіі і інш.).

Па ініцыятыве Беларускага фонду культуры і МАБ у Нясьвіжы адбудзецца міжнародная сустрэча Радзівілаў і іншых магнатаў-ураджэнцаў Беларусі. У часе яе мяркуецца стварыць Міжнародны фонд «Нясьвіж — кляйнот Беларусі».

Яшчэ адзін наш клопат — умацаваньне выдавецкай, матэрыяльнай базы. МАБ выступіла адным з заснавальнікаў Навукова-вытворчага цэнтру «Аднова», якой адна зь нямецкіх фірм бясплатна выдзеліла афсэтную друкарскую машыну. Узначаліў справу вопытны і энэргічны прадпрымальнік, у мінулым настаўнік А. Кудрэйка.

Камітэт МАБ імкнецца забясьпечыць сяброў МАБ новымі беларускімі выданьнямі — пакуль што (з увагі на сьціплясьць сродкаў) самымі неабходнымі. У адказ мы атрымоўваем зарубежныя публікацыі, бібліяграфічную інфармацыю, якая выкарыстоўваецца беларускімі навукоўцамі.

**Адам Мальдзіс,**
прэзыдэнт Міжнароднай
Асацыяцыі Беларусістаў

## НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ ПРА БЕЛАРУСЬ НА ЗАХАДЗЕ

### Economic Review. BELARUS.

Зьмена структуры былога Савецкага Саюзу зрабіла свой уплыў і на структуру заходняй інфармацыі. Факт існаваньня асобнай беларускай рэспублікі вымагае цяпер ад адпаведных дзяржаўных органаў заходніх дзяржаваў, ад навучальных установаў, выдавецтваў літаратуры пра Беларусь. Гэтак, апошнім часам Міжнародны Валютны Фонд апублікаваў эканамічны агляд Беларусі. У ім (на 76 старонках вялікага фармату) коратка расказваецца пра палітычны лад Беларусі і, на аснове апошніх афіцыйных дадзеных атрыманых у Менску, даецца аналіз эканоміі, фінансаў і сацыяльных праграмаў Беларусі. Да агляду далучаныя статыстычныя табліцы, палітычная карта былога Савецкага Саюзу. Выданьне гэтае можна набыць за 10 даляраў, пішучы на адрас:

International Monetary Fund, Publication Services, 700 19th Street, N.W., Washington, D.C. 20431. Tel. (202) 623-7430.

### BELARUS

У выдавецтве Лернэра выйшла багата ілюстраваная і цудоўна аформленая кніжка для амэрыканскіх школьнікаў пра Беларусь. Гэткія кніжкі выйдуць пра кожную зь 15 былых рэспублік СССР. На 56 старонках кнігі вялікага фармату, выдадзенай на люксусовай паперы, зьмечана шмат каляровых здымкаў. У адмысловым слоўнічку школьнікам тлумачацца такія тэрміны, як «Садружнасьць Незалежных Дзяржаваў», «камуніст», «усходнія славяне», «Літва» (гістарычная, якую тварылі летувісы і беларусы), «палянізацыя», «русыфікаваць» і інш. Кніжка напісана даволі аб'ектыўна, безь вялікіх памылак, якія сустракаліся дый сустракаюцца ў некаторых заходніх публікацыях пра Беларусь. На задняй вокладцы зьмешчаныя дзьве беларускія паштовыя маркі: адна з Пагоняй, другая зь бел-чырвона-белым сьцягам. Кніжка можна быць вельмі добрым падарункам для кагахаця. Яе можна выпісаць з выдавецтва, пішучы на адрас:

Geography Department, Lerner Publications Co., 241 First Avenue, Minneapolis, MN 55401. Tel.: 1-800-328-4929.

### BELARUS, UKRAINE, AND MOLDOVA

У выдавецтве Мілбрука выйшла брашура (32 ст.) Кельвіна Госнэла «Беларусь, Украіна і Малдова». Выданьне разьлічана на моладзь. У ім даюцца асноўныя факты пра тры заходнія рэспублікі былога Савецкага Саюзу: геаграфія, эканоміка, гісторыя. У брашуры шмат графікі, картаў, параўнальнай статыстыкі, зьмешчаная фатаграфія беларускай гімнасткі Вольгі Корбут. Брашуру можна выпісаць з выдавецтва:

The Millbrook Press, 2 Old New Milford Road, Brookfield, CT 06804. Прозьвішча аўтара кніжкі пішацца Kelvin Gosnell.

## «БЕЛАРУСЫ Ў СЬВЕЦЕ»

Адбылася сустрэча кіраўніцтва Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Ф. Скарыны і выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя». Удзельнікі сустрэчы дамовіліся супольнымі сіламі падрыхтаваць і выдаць энцыклапэдычны даведнік «Беларусы ў сьвеце», у якім, акрамя вялікага агляднага артыкулу, будуць шырока прадстаўлены зьвесткі пра нашых суродзічаў, што ўнеслі і ўносяць свой уклад у развіцьцё гаспадаркі і культуры іншых краін і народаў, пра выданьні, арганізацыі і ўстановы нашай дыяспары — пачынаючы зь Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны і канчаючы заакіянскімі дзяржавамі. Зразумела, выданьне будзе багата ілюстравана. Слоўнік гэтага даведніка мяркуецца скласьці да Сусьветнага форуму (сустрэчы) беларусаў — каб яго ўдзельнікі маглі дапоўніць і ўдакладніць прапанаваныя сьпісы. Выказвалася надзея, што нашы суайчыньнікі прымуць удзел у напісаньні артыкулаў, дашлюць у Цэнтр дакумэнтальныя матэрыялы.

Энцыклапэдычным даведнікам не абмяжуецца работа аддзелу «Беларусы ў сьвеце», які мяркуецца стварыць у нашым Цэнтры. Спадзяемся, што ў ім будуць падрыхтаваныя комплексныя дасьледаваньні, выданьні мастацкіх твораў, бібліяграфічных прац. Ужо распачата стварэньне адпаведных Банку інфармацыі, калекцыі кніг і пэрыядычных выданьняў, рукапісаў, фотаматэрыялаў. Для экспазыцыі «Беларусы ў сьвеце», якая задумана ў Цэнтры, з Англіі, Аўстраліі, Германіі, ЗША, Латвіі, Літвы паступілі першыя карціны, здымкі, памятныя рэчы. Экспазыцыя разьмесьціцца ва Ўсебеларускім доме — будынку былога Інбелкульту, які паводле распараджэньня ўраду, передаецца Цэнтру (на жаль — вельмі марудна, бо дасюль вызвалены нам толькі два пакоі з 27).

Навукоўцы Цэнтру, як і сябры Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, арганізацыйна дапамагаюць «Бацькаўшчыне» у падрыхтоўцы Сусьветнага форуму (сустрэчы) беларусаў. Вядома, мы разумеем, што правядзеньне сустрэчы — справа няпростая, неадзначная. Мы падзяляем трывогу БНФ, што час для такой сустрэчы дужа няспрыяльны. Але мы таксама разумеем, што іншага часу можа проста ня быць, для многіх суайчыннікаў — гэта ці не адзіны шанц наведаць Радзіму, ад якой яны адарваныя доўгія дзесяцігодзьдзі і якая ў многім вінавата перад імі. І таму пазбаўляць іх гэтага шанцу было-б нягуманна, неразумна. На пасяджэньні Навуковай рады нашага Цэнтру, дзе доўга і горача абмяркоўвалася пытаньне пра тое, падтрымаць ідэю «Бацькаўшчыны» аб правядзеньні Сусьветнага зьезду беларусаў ці не, пераважная большасьць прамоўцаў гаварылі пра тое, што кіравацца тут трэба столькі палітычнымі, колькі й агульнацыянальнымі, непераходнымі інтарэсамі, што пры правядзеньні сустрэчы найперш трэба дбаць пра кансалідацыю нацыі. І ці этычна будзе перакладваць вырашэньне нашых праблем на плечы людзей, у іх невінаватых?!

Таму навукоўцы Цэнтру спадзяюцца на плённае абмеркаваньне навуковых і культурных праблем у часе ліпеньскай Сустрэчы на беларускай зямлі.

**Адам Мальдзіс**
дырэктар Цэнтру, прэзыдэнт Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў

## ЭФЭКТ ЧАРНОБЫЛЯ НА РАЗЗБРАЕНЬНЕ

На канфэрэнцыі ў Прынстане, Н.-Дж., у якой узялі ўдзел былыя члены амэрыканскага й савецкага ўрадаў (міністры замежных спраў Джордж Шульц, Аляксандар Бясьсьмертных і інш.) абодвы бакі прызналі, што выбух на чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, зьнішчальная сіла якога раўнялася толькі аднэй чверці выбуху найменшае амэрыканскае ядзернае бомбы, даў магутны штуршок да раззбраеньня. («НЁТ», 28.II.93).

## РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ.

**Магчымасці дзелавога супрацоўніцтва**
**REPUBLIC OF BELARUS. Prospects for business cooperation**

Інфармаваць вонкавы сьвет пра сябе пачаў і Менск. Інфармацыйна-камэрцыйны цэнтр пры Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь выдаў даведнік у трох мовах (беларускай, расейскай і ангельскай) пра рэспубліку, ейны эканамічна-гандлёвы патэнцыял, дзяржаўныя ўстановы і адпаведныя законы. У ілюстраванай кнізе (147 ст.) гэткія разьдзелы: 1. Агульныя зьвесткі аб Рэспубліцы Беларусь. 2. Рэгуляваньне зьнешнеэканамічнай дзейнасьці. 3. Рэжым замежных інвэстыцый. 4. Пэрспэктыўныя і прыярытэтныя сфэры прыцягненьня замежных інвэстыцый у эканоміку Беларусі. 5. Банкаўская сыстэма. 6. Даведкі: адрасы і тэлефоны. У кнізе — вялікі англамоўны дадатак: Legislative and standard acts, governing foreign economic activities in the Republic of Belarus.

Для тых, хто займаецца бізнэсам або наагул цікавіцца станам рэчаў на Беларусі, гэта вельмі карыснае выданьне. Цана яго — 50 даляраў. Пісаць трэба на адрас: Рэспубліка Беларусь, 220050 Менск, вул. К. Маркса, 16. Інфармацыйна-камэрцыйны цэнтр пры Міністэрстве замежных спраў РБ.

## *ЗЬМЕНА ДАТЫ ВЫСТАЎКІ!*

*Абвестка-запросіны*

**20-Я МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ-РЫВЭРЫ**

У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры (26 So. Whitehead Ave.) адбудзецца **4-11 красавіка** сёлета 20-я выстаўка твораў мастакоў і ўмельцаў зь Нью-Джэрзі і іншых штатаў ЗША, Канады, а таксама Беларусі.
Усіх сардэчна запрашаем! Па інфармацыю тэлефанаваць на нумар: (908) 247-1822.

**Беларускі Мастацкі Клюб у Нью-Джэрзі**

## ЮБІЛЕЙНЫ ЖЭТОН




Выданы Сакавіковым сьвяткавальным камітэтам БАЗА. Цана сувэніру — 50 цэнтаў. Набыць можна ў Рэдакцыі «Беларуса».

**BELARUS. At a Crossroads in History (БЕЛАРУСЬ. На гістарычным раздарожжы)**

Пад гэткім загалоўкам і пад грыфам Калюмбійскага Ўнівэрсытэту, у выдавецтве Ўэств'ю Прэс, выйдзе ў чэрвені сёлета кніга др. Янкі Запрудніка. У кнізе (250 ст.) даецца агляд гісторыі Беларусі ад часоў князя Рагвалода да нашых дзён. Выданьне ілюстраванае 30 фатаздымкамі і 8 гістарычнымі картамі.

Цана: 49,95 дал. У цьвярдой вокладцы, 17,95 — у мяккай. Заказы слаць на адрас: WESTVIEW PRESS. Customer Service Department, 5500 Central Avenue, Boulder, CO 80301-2847. Order Toll-Free: (800) 456-1995. VISA or Master Card Orders Only. 8:00AM to 5:00P.M. Mountain Time

**Мікола Савіцкі.**

**РУСКА-БЕЛАРУСКА-АНГЛІЙСКІ СЛОЎНІК ПА ІНФАРМАТЫЦЫ І ВЫЛІЧАЛЬНАЙ ТЭХНІЦЫ. Мінск, выд. МП «Гаспад», 1992. 63 ст.**

Справа беларускае тэрміналёгіі і слоўніцтва паступова рухаецца напярэд. Нам прыемна паведаміць пра вынікі працы праф. Міколы Савіцкага, аўтара слоўніка па інфарматыцы. У слоўніку — каля тысячы найбольш шырокаўжывальных словаў і тэрмінаў у вельмі важнай сёньня галіне навукі й практычнай дзейнасьці, якой зьяўляецца інфарматыка.

У выпрацоўцы беларускіх тэрмінаў вялікай дапамогаю ўкладальніку быў рэдактар гэтага выданьня мовавед Вінцук Вячорка. Праф. М. Савіцкі — ня толькі спэцыяліст свае галіны, эканамічнай інфарматыкі, але й вельмі дзейны старшыня Менскае гарадзкое рады Таварыства Беларускай Мовы. Ён зрабіў важную справу на ніве нацыянальнага слоўніцтва.

## ДА ЗАМЕЖНЫХ ПАДПІШЧЫКАЎ

Да падпішчыкаў і ахвярадаўцаў газ. «Беларус», якія жывуць паза ЗША, просьба: прысылайце, калі ласка, падпіску й ахвяры толькі міжнародным чэкам — International Money Order — (у амэрыканскіх далярах), купленым у міжнародным банку. На грашовым пераказе павінен быць зазначаны філіял банку ў ЗША.

**Адміністрацыя газ. «Беларус»**



## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| К.С. | 500 |
| Замест кветак на магілу с.п. М. Кіпель | |
| З. Смаршчок | 100 |
| Я. Жучка | 100 |
| Т. і А. Кольба | 50 |
| У сьветлую памяць Ігара Шчорса: | |
| Ж. і Т. Магаліф зь дзецьмі | 100 |
| Ул. Русак (замест кветак на магілу с.п. С. Гутырчыка) | 50 |
| Падпіска й ахвяры: | |
| Т. Аўдзей | 50 |
| В. Богдан | 50 |
| М. Каленік | 50 |
| Я. Шымчык | 35 |
| А. Чарнэцкая | 30 |

*Праз нашага прадстаўніка Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Замест кветак на магілу с.п. М. Скабея: | |
| А. Філістовіч | 50 |
| М. Сьнежка | 20 |
| Замест кветак на магілу с.п. С. Гутырчыка: | |
| Б. і А. Даніловіч | 50 |
| В. і Л. Кажан | 40 |
| Р. Галяк | 25 |
| М. Грэбень | 20 |
| Замест кветак на магілу с.п. М. Кіпель | |
| К. Ворт і Надзя Вайцяхоўская | 50 |
| Падпіска й ахвяры: | |
| А. Кіпель | 200 |
| М. Сьнежка | 100 |
| А. Тэлеш | 60 |
| А. Сямёнава | 50 |
| О. Грыцук | 50 |
| П. Кулеш | 40 |
| Л. Корчык | 30 |
| У. Гуцько | 30 |
| М. Такушэвіч | 30 |
| Я. Місюль | 30 |
| М. Вазьняк-Гаўрылюк | 30 |
| М. К. | 25 |
| Г. Дубяга малодшы | 25 |
| Усяго | 955 |

Усім ахвярадаўцам і падпішчыкам шчыры дзякуй!

**Выдавецтва «Беларус»**